## Карэннае пытанне эканамічнай палітыкі партыі

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла асобнай брашурай на беларускай мове даклад таварыша М. С. Гарбачова «Карэннае пытанне эканамічнай палітыкі партыі», з якім ён выступіў 11 чэрвеня 1985 года на нарадзе ў ЦК КПСС па пытаннях паскарэнння навукова-тэхнічнага прагрэсу.

## ПЕРШАЙ РУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Рэвалюцыя 1905—1907 гадоў актывізавала дзейнасць працоўных і на тэрыторыі Беларусі. Паўсюдна адбываліся рэвалюцыйныя выступленні рабочых, за лепшую долю змагаліся сяляне, праходзілі хваляванні сярод навучэнцаў. Пра размах гэтай барацьбы, пра падзеі таго часу, што сталі састаўной часткай першай расійскай рэвалюцыі, расказваюць шматлікія экспанаты выстаўкі, якая арганізавана навуковымі супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея БССР.

Праведзена даволі карпатлівая работа, каб сабраць разам разнастайныя матэрыялы, якія даюць уяўленне аб тым, што адбывалася 80 гадоў назад. Значнае месца сярод іх займаюць экспанаты, што расказваюць аб паўстанні на браняносцы «Пацёмкін». Аб падзеях, якія назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы, сваёй суровай мовай гавораць дакументальныя здымкі. На адным з іх — матрос-беларус А. Мазураў, што прымаў актыўны ўдзел у самім паўстанні і ў сувязі з 50-годдзем рэвалюцыі 1905—1907 гг. быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Акрамя здымкаў, у экспазіцыі нямала экзэмпляраў газет, лістовак, а таксама сатырычных часопісаў таго часу, што даюць магчымасць адчуць і сам размах рэвалюцыйнай барацьбы, і ўсю вастрыню сутыкненняў паміж правячай вярхушкай і нізамі. У прыватнасці, уяўляюць цікавасць нумары часопісаў «Свобода», «Пулемет», «Карикатурный листок С.-Петербурга» і іншыя.

Расказваецца пра масава-палітычную дэманстрацыю рабочых і навучэнцкай моладзі, якую група РСДРП правяла ў Мінску ў лютым 1905 года, пра выступленні сялянства летам гэтага года ў розных раёнах, пра падзеі, што адбываліся ў наступныя гады. Экспануюцца экзэмпляры ленінскіх работ, якія выдаваліся ў той час.

Ю. ЛІПАЧ.

## УДЗЕЛЬНІКАМ ФЕСТЫВАЛЮ

Многія ўдзельнікі XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве—як дэлегаты, так і госці — пабываюць і ў нашай рэспубліцы, дзе пазнаёмяцца з жыццём працоўных, больш даведаюцца аб развіцці літаратуры і мастацтва. Дапамогу ў гэтым акажуць і выданні даведачна-інфармацыйнага, а таксама краязнаўчага характару, якія выходзілі раней, і тыя, што выпушчаны спецыяльна да свята.

Некаторыя з іх пабачылі свет у выдавецтве «Беларусь». Пра гераізм беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, зверствы гітлераўцаў на акупіраванай тэрыторыі госці даведаюцца, пазнаёміўшыся з брашурай В. Раманоўскага «Забыццю не падлягае». На рускай, а таксама на некалькіх замежных мовах выпушчана і ілюстраваная брашура «Савецкая Беларусь», якая мае шмат пазнавальнага матэрыялу, што тычыцца розных аспектаў жыцця рэспублікі.

Працягваецца выпуск ілюстраваных брашур у серыі «Беларуская ССР». «Адукацыя, навука і культура» А. Вайкуля — чарговая ў ёй.

Цікавасць уяўляюць і выданні альбомнага плана. У іх тэкст падаецца на некалькіх мовах. Адзін з апошніх альбомаў, які выйшаў у выдавецтве, «Вялікая Айчынная вайна ў творчасці беларускіх мастакоў», складзены М. Ганчаровым. У ім змешчаны рэпрадукцыі лепшых твораў, выкананых вядучымі беларускімі майстрамі.

С. АРЭХАЎ.

## ЗАЛАТЫ ПРЫЗ—БЕЛАРУСКАМУ ФІЛЬМУ

Падведзены вынікі XIV Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю. Сярод адзначаных залатымі прызамі — мастацкі фільм «Ідзі і глядзі» (сцэнарый А. Адамовіча, рэжысёр Э. Клімаў) сумеснай вытворчасці кінастудый «Беларусьфільм» і «Масфільм».

## НА АБЛАСНЫМ СЕМІНАРЫ

У пятнаццаты раз сабралася маладая творчая інтэлігенцыя Віцебшчыны на свой семінар, які сёлета супаў з днём нараджэння Янкі Купалы і праходзіў у маляўнічых Ляўках.

На семінар прыехала вялікая група маладых літаратараў, мастакі, архітэктары. У кожнага ўдзельніка — выдадзеныя ці падрыхтаваныя да выдання зборнікі вершаў і прозы, карціны, архітэктурныя праекты.

Заняткі на семінары вяліся па секцыях: літаратурнай, мастацкай, архітэктурнай.

Заняткі з літаратарамі вялі пісьменнікі М. Федзюковіч, У. Папковіч, А. Салтук, Д. Сімановіч.

Адбыўся «круглы стол» «Твая жыццёвая пазіцыя», удзельнікамі якога побач з літаратурнай моладдзю былі другі сакратар абласнога камітэта камсамола П. Шарэнда, загадчык аддзела прапаганды і культурна-масавай работы абкома ЛКСМБ А. Ласякін.

Удзельнікі семінара ўсклалі кветкі да помніка Янку Купалу, наведалі філіял Літаратурнага музея яго імя, запаведнік паэта і правялі ў гэтым, дарагім усім людзям кутку другое традыцыйнае абласное свята паэзіі.

Адбылася літаратурная справаздача ў Палацы культуры Аршанскага льнокамбіната і перад калгаснікамі мясцовага калгаса імя Янкі Купалы.

І. ЗІМІН.

## СПРАВАЗДАЧЫ ПЕРАД ГЛЕДАЧАМІ

Дзесяткі аршанцаў сталі нядаўна гледачамі справаздачнага канцэрта ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Дома культуры чыгуначнікаў імя С. М. Кірава.

Праграма аматараў сцэны была насычанай і разнастайнай: песні савецкіх кампазітараў, беларускія танцы і іншыя нумары.

З вялікім поспехам выступілі мужчынскі дуэт, самадзейныя артысты—слесар вагоннага дэпо В. Тувінскі, кінамеханік З. Конташава і іншыя.

У калектыва мастацкай самадзейнасці гэта не першая сустрэча з гледачамі. Ён выступіў перад хлебаробамі калгаса імя Кірава, у доме адпачынку «Орша», а ў Дубровенскім раёне аматары сцэны былі гасцямі чыгуначнікаў станцыі Асінаўка, некалькіх гаспадарак.

Справаздачныя канцэрты перад працаўнікамі ў Оршы сталі традыцыяй. У летнім тэатры парку культуры і адпачынку імя Ленінскага камсамола Беларусі выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці мясакансервавага камбіната, завода «Легмаш», аўтагаспадарак горада.

І. КОГАН.

## З ІМЕМ КУПАЛЫ ЗВЯЗАНА

У мінулую нядзелю зноў ажылі маляўнічыя мясціны паблізу Вязынкі — радзімы народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. З Мінска і Маладзечна, Вільнюса і Радашковіч, іншых населеных пунктаў сабраліся прыхільнікі таленту творцы, які першым на ўвесь свет выказаў спрадвечнае жаданне беларусаў «людзьмі звацца». Па традыцыі тут праходзіла штогодняе купалаўскае свята паэзіі. На гэты раз яго арганізавалі супрацоўнікі Літаратурнага музея імя Янкі Купалы і аднаго з яго філіялаў, што знаходзіцца ў Вязынцы.

Адкрыў свята вядомы беларускі паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа Максім Лужанін. Ён адзначыў, што падобныя мерапрыемствы ў Вязынцы праводзяцца ўжо больш дзесяці гадоў, а сёлетняе прысвячаецца 103-яй гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы. Яно адметнае тым, што праходзіць у год 40-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, а менавіта ў час барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на ўсю моц раскрыліся сацыяльна - грамадзянскія якасці творчасці слыннага майстра, які верыў у перамогу над ворагам, заклікаў народ на змаганне з чужынцамі. М. Лужанін расказаў аб сваіх сустрэчах з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

У свяце прынялі ўдзел і іншыя беларускія паэты. З хваляваннем слухалі прысутныя выступленні Кастуся Цвіркі і Яўгена Міклашэскага, Алеся Пісьмянкова і Леаніда Драньконіда-Майсюка, Мечыслава Шаховіча... Яны гаварылі аб неўміручасці творчай спадчыны Янкі Купалы, аб жыццёвасці яго традыцый, чыталі свае вершы, прысвечаныя песняру, а таксама творы, у якіх гучыць любоў да бацькоўскай зямлі, услаўляецца сацыялістычная рэчаіснасць.

Заслужаны работнік культуры БССР, краязнавец В. Ляшкевіч расказаў аб тым, што робіцца ў раёне па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы, пра работу маладзечанскіх краязнаўцаў.

Свята завяршылася вялікім канцэртам калектываў мастацкай самадзейнасці.

К. ГАРБАЦЭВІЧ.

## НА УЗДЗЕНШЧЫНЕ, ЛЯ КАЛЫСКІ МАЛЕНСТВА




З успамінамі пра П. Глебку выступае Максім Лужанін.

Прыгожая ў гэтыя летнія дні вёска Вялікая Уса. Ціха плыве адразу ж за агародамі павольная Уса, крыху воддаль — лес, што запрашае ў свае цяністыя шаты, а поруч дагледжаныя руплівымі хлебаробскімі рукамі палеткі. Дарагія пейзажы, вабнасць якіх з ранняга маленства спазнаў выдатны беларускі паэт і вучоны, драматург і перакладчык, акадэмік Акадэміі навук БССР Пятро Глебка.

Тут, на зямлі шчодрай і спеўнай, ля калыскі маленства з'явіліся яго першыя радкі, што адразу прывабілі прастатой і разам з тым поўніліся агульначалавечым зместам, бо выражалі тое, што блізкае кожнаму.

Адсюль, з Вялікай Усы, пачынаюцца і любоў паэтава, і замілаванне. Каб адчуць вытокі яго творчасці, абавязкова трэба зазірнуць у гэтую невялікую вёску, якая падарыла роднай літаратуры свайго паэта. З хваляваннем праходзілі ціхімі вулачкамі Вялікай Усы пісьменнікі і вучоныя, што прыехалі на Уздзеншчыну, каб адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння П. Глебкі.

Старэйшая сястра пісьменніка Вольга Фёдараўна з хваляваннем расказвала гасцям пра свайго брата: яго маленства, пра тое, як любіў ён бываць сярод землякоў, як заўсёды цікавіўся іх справамі. Госці пабывалі ў Літвянскай сярэдняй школе, якая носіць імя паэта. Вучні і настаўнікі прысвяцілі жыццю і творчасці земляка мемарыяльны пакой-музей.

У кінатэатры «Кастрычнік» ва Уздзе адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею П. Глебкі. Аб тым, наколькі любяць яго творчасць землякі, яскрава сведчыла перапоўненая зала: прыйшлі калгаснікі, рабочыя, настаўнікі, вучні.

Вечар адкрыў і вёў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнак. Зямля Уздзеншчыны, сказаў ён, шчодрая на таленты, і ў гэтым сузор'і адно з першы месц належыць Пятру Фёдаравічу Глебку, з імем якога звязаны выдатныя старонкі не толькі ў беларускай паэзіі, але і ў драматургіі, мовазнаўстве. У яго творчасці ўсё ішло ад народа, ад ведання і разумення яго дум і спадзяванняў, ад любові да чалавека і веры ў яго мужнасць, у яго незлічоныя сілы.

Сакратар Уздзенскага райкома партыі Г. Пранько ў сваім выступленні зазначыла, што многае з таго, аб чым П. Глебка толькі марыў, што празорліва прадказваў у сваіх творах, сёння стала явай. І гэта добра відаць на прыкладзе Уздзеншчыны, якая калісь была бедным, забітым кутком, а цяпер стала раёнам развітой сельскай гаспадаркі, высокай культуры.

Гаворачы пра таварыша і сябра, старэйшына беларускай паэзіі М. Лужанін адначасова вяртаўся і ў гады свайго творчага юнацтва. Так ужо сталася, што паэтычныя сцяжыны яго і П. Глебкі ішлі поруч. З першых жа сустрэч П. Глебка ўразіў яго сваёй любоўю да літаратуры, жывой зацікаўленасцю да гісторыі, якія пазней выліліся ў сапраўдную энцыклапедычнасць пазнання жыцця і людзей, культуры свайго народа. Ён, зазначыў М. Лужанін, як бы ахінаў у сваю дабрату, у глыбіню свайго таленту, прыцягваў да сябе кожнага, каму пашчасціла з ім сустрэцца.

Намеснік дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук А. Фядосік нагадаў, як шмат зрабіў П. Глебка па развіцці навуковай думкі ў рэспубліцы, як плённа працаваў ён у галіне мастацтвазнаўства, фалькларыстыкі.

Вядомы беларускі паэт М. Аўрамчык расказаў, як перад вайной ён сустрэўся ўпершыню з П. Глебкам, як быў захоплены ягонай апантанай любоўю да літаратуры, яго ўвагай да маладых, ягонай чуласцю, тактоўнасцю. Усё гэта добра знаёма кожнаму, хто сустракаўся з Пятром Фёдаравічам.

Сцішылася зала, калі пачуўся голас самога паэта, запісаны на магнітафонную стужку ў апошнія гады яго жыцця. Прагучалі вершы «Дні сучаснасці» і «Беларусь», прасякнутыя любоўю да бацькаўшчыны, напоўненыя ўслаўленнем сацыялістычнага ладу жыцця. А потым зноў былі выступленні і кожн з іх дадавала нешта новае вобліку П. Глебкі — творцы, чалавека, камуніста.

Намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР А. Падлужны спыніў увагу прысутных на вялікай даследчыцкай рабоце П. Глебкі, адзначыў тое, што паспеў ён зрабіць у галіне лінгвістыкі.

На пачатку свайго творчага шляху з П. Глебкам сустрэўся і драматург А. Махнач, які тады працаваў загадчыкам Прысынкаўскай сельскай бібліятэкі на Уздзеншчыне. Пятро Фёдаравіч быў першы, хто ўхваліў творы маладога аўтара, параіў яму пісаць далей. З хваляваннем гаварыў А. Махнач аб гэтым. Гэткім жа ўважлівым і адначасова патрабавальным настаўнікам, старэйшым таварышам П. Глебка быў і да іншых пісьменнікаў. Паэт К. Цвірка адзначыў, што П. Глебка, працуючы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, уважліва ставіўся да маладых навукоўцаў, паказваючы асабісты прыклад ва ўсім.

Са словам удзячнасці да пісьменнікаў, артыстаў і вучоных, якія прыехалі на Уздзеншчыну, каб урачыста адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння слыннага земляка, звярнуўся настаўнік Літвянскай сярэдняй школы імя П. Ф. Глебкі П. Махнач.

Вечар закончыўся вялікім канцэртам, у якім прынялі ўдзел калектывы мастацкай самадзейнасці раёна, а таксама заслужаныя артысты БССР В. Шутава, Л. Барткевіч, іншыя выканаўцы.

А. ВІШНЕЎСКІ.



Госці наведалі Літвянскую сярэднюю школу імя П. Ф. Глебкі. Фота Ул. КРУКА

## ГАСТРОЛІ ЗАВЯРШАЮЦЦА

Драмай В. Яжова «Салаўіная ноч» пачаў гастролі ў Бабруйску Днепрадзяржынскі рускі музычна-драматычны тэатр. Гэты спектакль быў падрыхтаваны ўкраінскімі артыстамі да 40-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Твор закранае пэўныя маральныя аспекты высокай гуманнай місіі савецкага салдата, які крочыў на тэрыторыю Германіі вясной 1945 года.

Асноўнае ж месца ў рэпертуарнай афішы тэатра займае музычная камедыя. Гэта «Севастопальскі вальс» на музыку К. Лістова, «Рускі сакрэт» па матывах «Ляўшы» М. Ляскова (музыка В. Дзмітрыева), «Мая цудоўная лэдзі» Ф. Лоу... Паказалі госці і рускую класіку — камедыю А. Астроўскага «Банкрут», сучасныя савецкія п'есы «Гарачая кропка» А. Пераваліна і «Наваселле ў старым доме» А. Краўцова. Юным гледачам былі адрасаваны спектаклі «Пятрушка-чужаземец» паводле С. Маршака, «Антошка і гармошка» В. Шульжыка і Ю. Фрыдмана.

Бабруйчане пазнаёміліся са сцэнічным і вакальным майстэрствам заслужанай артысткі Украінскай ССР Л. Міхайлічэнка, заслужанага артыста РСФСР Б. Папова, Ю. Падсалонкі, Л. Беражной, са здольнай творчай моладдзю.

Арбіта гэтых гастроляў не абмяжоўвалася сцэнай тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча: украінскія артысты паказалі выязныя спектаклі ў клубах і дамах культуры Бабруйскага, Кіраўскага, Асіповіцкага, Глускага раёнаў. Адбыліся творчыя сустрэчы трупы тэатра з калектывамі прамысловых прадпрыемстваў Бабруйска.

В. ЗЯМСКОЎ.

# «Доблесць» — літаб'яднанне ваенных

**Гэтая сустрэча была падобна на дзесяткі ранейшых. Гэтаксама ў мінскім Доме афіцэраў сабраліся людзі ў цывільнай вопратцы, у паставе якіх яшчэ ўгадваецца армейская выпраўка, што не страцілася з цягам часу, і тыя, хто носіць ваенную форму — салдаты, афіцэры... І ўсё ж момант урачыстасці, святочнасці даваў аб сабе знаць: не проста праходзіла чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Доблесць», якое працуе пры мінскім Доме афіцэраў, і рэдакцыі газеты Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины», а вечар, прысвечаны 30-годдзю гэтага творчага калектыву.**

Сабраліся разам не толькі члены аб'яднання. Прыйшлі і госці — прадстаўнікі камандавання і палітупраўлення БВА, беларускія пісьменнікі. І як заўсёды бывае ў падобных выпадках, згадваўся шлях калектыву, пазначаны і сваімі пошукамі, набыткамі.

Членам «Доблесці» ў свой час быў пісьменнік М. Кругавых, аўтар вядомых не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі кніг «Честь ярма не приемлет», «Где не ждут тишины», «Дорога в мужество», «Юрка — сын командира» і іншых, прысвечаных ратнаму подзвігу савецкіх воінаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і ў мірны час. Кнігі выходзілі і ў членаў літаб'яднання М. Плотнікава, П. Мільго, М. Стручына, Героя Савецкага Саюза Я. Вайнруба і іншых. Творы ваенных літаратараў уключаны ў многія калектыўныя зборнікі.

У тым, што армейскія літаратары паспяхова выступаюць у друку, пішуць цікавыя творы, шмат дае творчая вучоба, а таксама сустрэчы з вядомымі літаратарамі. У розны час гасцямі «Доблесці» былі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, пісьменнікі Іван Чыгрынаў, Аляксей Кулакоўскі, Міхась Калачынскі, Ян Скрыган, Леанід Прокша, Мікола Гамолка, Аляксандр Дракахруст, Валянцін Тарас і іншыя.

У час вечара таксама гучала нямала творчых парад, пажаданняў на далейшае. І, вядома, падкрэслівалася, што ў армейскіх літаратараў павінна стаць адной з важнейшых задач раскрыццё подзвігу савецкага народа ў гады барацьбы з фашызмам, адлюстраванне жыцця сённяшніх воінаў Узброеных сіл СССР, паказ барацьбы СССР за мір, супраць пагрозы новай вайны.

На сустрэчы выступілі намеснік начальніка Палітупраўлення ЧБВА, генерал-маёр, пісьменнік А. Сульянаў, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Чыгрынаў, старшыня камісіі па ваенна-шэфскай рабоце СП БССР Л. Прокша, пісьменнікі П. Прыходзька і Я. Крупенька.

Творы беларускіх літаратараў, а таксама членаў літаб'яднання «Доблесць» з цікавасцю слухалі воіны і афіцэры, якія прыйшлі на гэтую ўрачыстую сустрэчу.

В. КАЗЛОЎ.

# Юныя літаратары ў «Зубраняці»

Традыцыйна ў піянерскім лагеры ЦК ЛКСМБ «Зубраня» збіраюцца на заняткі і летні адпачынак юныя матэматыкі, фізікі, хімікі. Сёлета да іх далучыліся і аматары прыгожага пісьменства. Усе яны — з ліку тых, што займаюцца ў школе юнага літаратара. Узначальвае школу і групу ў піянерскім лагеры Яўген Лецка. На занятках дзеці пашыраюць свае веды па роднай мове і літаратуры, чытаюць і абмяркоўваюць уласныя вершы, апавяданні, фельетоны, п'есы.

Да выхаванцаў прыязджалі супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР В. Чамярыцкі і У. Кароткі. Мяркуюць наведацца таксама паэты, празаікі, крытыкі.

В. ШЭЛЕСТ.

СЛОВАМ ПУБЛІЦЫСТА

Павел МІСЬКО

# За яднанне, якое дапаможа чалавецтву

Моладзь...

**Цяпер тых, каму да 25-ці, больш за палову чалавецтва. А ў многіх краінах колькасць маладых даходзіць да 60, нават 70 працэнтаў. Моладзь — значная частка сялян, рабочых, інтэлігенцыі, велізарная яе роля ў эканамічным і грамадскім жыцці. А яшчэ ж не трэба забываць, што ўсе арміі ўсіх краін — амаль спрэс моладзь.**

**Былы амерыканскі генерал Норстэд, галоўнакамандуючы ўзброеных сіл Паўночна-атлантычнага саюза, неяк сказаў: «Нам зусім не ўсё роўна, у якім духу выхоўваецца падрастаючае пакаленне і на чыім баку апынецца моладзь у рашаючы для яе і лёсаў міру момант...» Але ж не безгаловыя ўсе гэтыя былыя і сённяшнія натаўскія кіраўнікі, яны разумеюць, што ў тым «рашаючым» моманце ўсё можа павярнуцца не так, як ім хочацца, як яны плануюць. Гэтае разуменне сфармуляваў буржуазны сацыёлаг Г. Мюлер: «Надзея выключна на вайну ідэй, і ў ёй рашаючая бітва павінна адбыцца на тым полі бою, якое мы называем «моладзь» (з яго кнігі «Дайце бога моладзі»).**

Моладзь... Добра разумеючы сённяшняе яе значэнне, ААН аб'явіла бягучы, 1985 год, Сусветным годам моладзі.

Самай галоўнай падзеяй Сусветнага года моладзі, па агульным прызнанні, з'явіцца XII Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў, які адкрыецца ў Маскве 27 ліпеня. Яго дэвіз — «За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу!» Гэта ўжо будзе другі падобны фестываль на радзіме вялікага Леніна, фестываль, які пройдзе ў год 40-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Пра работу Міжнароднага падрыхтоўчага камітэта XII Сусветнага, пра тое, як моладзь Савецкага Саюза і Беларусі, замежных краін рыхтуецца да гэтага вялікага маладзёжнага форуму, у нашым друку з'яўляецца нямала паведамленняў. Я заўсёды чытаю іх з вялікай цікавасцю, і мне ўспамінаецца той Маскоўскі — VI Сусветны. 28 гадоў прайшло з таго часу, на новы фестываль з'едуцца ўжо дзеці, а то і ўнукі тых, што былі гасцямі Масквы ў 1957 годзе...

А здаецца, усё было нібы ўчора — так ярка помняцца фестывальныя сустрэчы таго, Шостага, у якім мне давялося ўдзельнічаць у складзе беларускай дэлегацыі.

...Беларуская дэлегацыя складалася з 350 чалавек. Жылі ў асноўным у студэнцкім гарадку Ціміразеўскай акадэміі. У тыя некалькі дзён, што заставаліся да адкрыцця фестывалю, знаёміліся з Масквою, з музеямі, з УСГВ (тады яшчэ не ВДНГ) і г. д.

І ўдзень, і ўвечары, да глыбокай ночы на вуліцах упрыгожанай і расквечанай агнямі ілюмінацыі сталіцы натоўпы моладзі — нашай і замежнай, стыхійныя знаёмствы, абмен сувенірамі, значкамі.

Апошні дзень перад адкрыццём, 27 ліпеня, ішоў дождж. Ішоў ён і ўсю ноч і нават раніцаю, а потым пагода робіцца нібы па заказе — цёплая і сонечная.

Адкрыццё — на новым стадыёне ў Лужніках. Выехалі загадзя, на ўсёй шматкіламетровай трасе сотні і сотні аўтобусаў, амаль ушчыльную адзін за адным. Ледзь паўзём, вуліцы забіты масквічамі настолькі, што машыны літаральна праплішчваюцца. Тысячы працягнутых рук з натоўпу, тысячы — з аўтобусаў, яны сплятаюцца ў моцных поцісках і не даюць аўтобусам ходу, тармозяць іх...

І ўжо на стадыёне дыктар некалькі разоў прасіў прабачэння ў гледачоў, што з-за гэтага прыпазнення аўтобусаў і адкрыццё фестывалю затрымліваецца...

Цырымонія праходжання дэлегацый, адкрыцця фестывалю, спартыўна-мастацкая частка заняла амаль шэсць гадзін. Гэта было небывалае па шматфарбнасці, маляўнічасці відовішча, якое расхвалявала ўсіх да глыбіні душы.

Незабыўнымі былі і вечар салідарнасці з моладдзю каланіяльных краін, які праводзіўся ў Астанкіне, і баль у Крамлі, і вечар, у які адбывалася закрыццё фестывалю, — апісваць іх можна было б бясконца. Штодзённа розных мерапрыемстваў, сустрэч, пасяджэнняў клубаў па прафесіях, баляў, праглядаў нацыянальных праграм кіно, цыркаў, эстрадных прадстаўленняў, канцэртаў, экскурсій, развучванняў песень і танцаў, спартыўных спаборніцтваў і здачаў норм на спартыўны значок фестывалю, конкурсаў, злётаў турыстаў, свят сельскай і рабочай моладзі, праглядаў новых спектакляў былі сотні і сотні. Заняты былі памяшканні ўсіх тэатраў, клубаў, кінатэатраў, канцэртныя залы, цыркі, эстрадныя пляцоўкі, «зялёныя тэатры». А ўсё ж трэба было размеркаваць, прадугледзець, а то і адмяніць, знайсці магчымасць перанесці ў закрытыя памяшканні ці на наступны дзень, калі падводзіла надвор'е...

Я гляджу на паблеклую ад часу Ганаровую грамату ЦК ЛКСМБ, падпісаную Віталем Смірновым, — «За актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні І-га Усебеларускага і VI Сусветнага фестываляў моладзі і студэнтаў «За мір і дружбу», на прыгожа аформленую падзяку Савецкага камітэта фестывалю — «За актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў», на шматлікія праграмкі і запрашальныя білеты, якія захаваліся ў маіх паперах з фестывалю, і ўспамінаю, як мы літаральна валіліся з ног, прыходзячы ў інтэрнат ў гадзіну, а то і ў дзве ночы.

М. Шолахаў у прывітанні ўдзельнікам фестывалю напісаў тады: «Жадаю і ў весялосці не забываць пра дружбу і яднанне моладзі ўсіх нацый і краін, пра тое яднанне, якое дапаможа чалавецтву захаваць мір ва ўсім свеце». Гэты наказ мы ўспрымалі як свой дэвіз, мы на фестывалі не адпачывалі — працавалі.

Беларуская дэлегацыя сустракалася з моладдзю 11 краін. Асабліва помняцца сустрэчы з прадстаўнікамі Польшчы, Англіі, Італіі, Бірмы, Кубы, Вест-Індыі, Цэйлона. Замежныя дэлегацыі ў большасці выпадкаў складаліся з моладзі і студэнтаў. Але былі ў дэлегацыі Цэйлона, напрыклад, і людзі вельмі паважанага ўзросту, рознага сацыяльнага становішча, маёмаснага цэнзу і нават шасцёра будыйскіх манахаў у жоўтых тогах. Калі адны цэйлонцы горача дэманстравалі сваю волю да міру і дружбы, то другія былі больш стрыманыя, а манахі ўвесь час прасядзелі з каменнымі тварамі. Калі афіцыйная частка сустрэчы закончылася, усе пабіліся на групкі, у кожнай свая размова, свая тэма. Пытаем у аднаго таўсцяка-манаха з бліскуча пагаленаю галавою: «А як вы, містэр, разумееце барацьбу за мір?» Адказаў ён з самым сур'ёзным выглядам: «Мы лічым, што ўсе няшчасці і беды на зямлі ад таго, што людзі дзейнічаюць. А гэтага не трэба рабіць, трэба браць прыклад у прыроды — жывы, расці, наглядай за раслінамі, дрэвамі. І шчасце прыйдзе да вас». На яго пасыпаліся рэплікі з усіх бакоў: «Гэта адны вы, манахі, можаце дазволіць сабе такое сядзенне!», «Мы будзем сядзець, склаўшы рукі, цішэй травы... А ўсе астатнія? А за акіянам як? Шалёная гонка ўзбраенняў не спыняецца, атамная істэрыя раздзімаецца ўсё больш...».

Тады, у 1957 годзе, не былі свабоднымі ні Куба, ні тым больш Нікарагуа. Тады дэлегацыі з Кубы і Вест-Індыі (цяпер — Ямайка) былі вельмі маленькія. З Кубы змаглі дабрацца толькі чатыры чалавекі і то — з вялікімі цяжкасцямі, праз трэція-чацвёртыя краіны. Са сродкамі дапамагла Кампартыя, а што і самі зарабілі. На сустрэчы з кубінцамі мы размаўлялі спачатку з гаванскім архітэктарам Альфрэда, потым з піяністкаю Іяландаю Агірэ. Якія жахі расказвалі яны пра тэрор, які чыніў на Кубе амерыканскі стаўленік Батыста, як ненавідзіць гэтага забойцу народ!

— Гэта другі Гітлер! Фашыст Батыста, фашыст... Але яму не ўдасца задушыць супраціўленне кубінскага народа, — горача гаварыў архітэктар. — Я ведаю, што на радзіме нас чакае за гэтую паездку мінімум два гады турмы. Але мы не раскайваемся, што пабывалі тут, на фестывалі... Мы бачылі столькі ўсяго, што хопіць расказваць дзецям і ўнукам.

**Ні кубінцы, ні мы тады не ведалі і не маглі ведаць, што праз месяц у кубінскім горадзе Сьенфуэгасе паўстане ваенна-марскі гарнізон. Маракі зоймуць паліцэйскае ўпраўленне, раззброяць сухапутныя воінскія падраздзяленні і паліцыю, захопяць склады са зброяй, раздадуць яе насельніцтву, што паўстанцы поўнасцю авалодаюць горадам... Не ведалі мы, што пройдзе ўсяго нейкая паўтара года і гнеў народа змяце з вострава Батысту і ўсю яго зграю прыслужнікаў, што павядзе народ на змаганне з дыктатурай легендарны Фідэль Кастра. І што надыдзе нават такі час, што сама Куба прыме чарговы, XI Сусветны фестываль моладзі...**

**Піяністка піша мне ў блакнот друкаванымі рускімі літарамі: «Иоланда Огирре. Вива Куба либре!»**

**Дзе вы цяпер, Альфрэда і Іяланда? Як склаўся ваш лёс? Будуеце новую Кубу ці сталі ахвярамі старога рэжыму?**

Не раз і не два пераконваліся мы ў час сустрэч, як мала пра нашу краіну ведаюць за рубяжом, якія скажоныя, перахлушаныя нават тыя весткі, што даходзяць да іх, колькі паклёпу і бруду выліваецца там на нашы галовы, на якой шалёнай хуткасці круціцца махавік прапагандысцкай машыны.

Так было тады, дваццаць восем гадоў назад, а зараз увогуле дайшло ўсё да нейкага чорнага шалу і эпілепсіі, гіпертрафіравана разбухлая сістэма «свабоднага абмену інфармацыяй», за якую ратуюць ЗША, імкнецца закабаліць розумы і маладых, і не маладых, атруціць ядам панамерыканізму свядомасць цэлых народаў.

У час балю ў Крамлі, калі мы находзіліся, нагледзеліся, наспяваліся разам з украінцамі і ўжо выбіралі, які канцэрт на якой эстрадзе паглядзець-паслухаць, я ўбачыў дзвюх дзяўчатак-артыстак, якія слухалі, што ім гаварыў хударлявы чалавек з ускінутым на руку плашчом, прыслухаўся — немец. Немец штосьці ім гаворыць, тыя не разумеюць і звонка рагочуць, рагоча і ён, не разумеючы іх. Падхопліваем іх пад рукі, цягнем у свой гурт. Іду на выручку немцу, мабілізоўваю ўвесь свой запас нямецкіх слоў, што застаўся пасля школы. Высвятляецца, што немец бачыў дзяўчат на канцэрце, спадабаўся яму і канцэрт, і самі дзяўчаты — артысткі Сібірскага народнага хору (а яны сапраўды былі прыгажунямі!). Паслухаўшы мяне, дзяўчаты дзякуюць немцу за камплімент і бягуць да сваіх сябровак.

А я працягнуў размову з немцам. Ён з Дортмунда, з ФРГ. Бацька яго сядзеў у гітлераўскай турме з 1939 па 1945 год, зараз кіруе адной з дэмакратычных арганізацый. «А не пагражае яму і зараз турма?» — «Усё можа быць. У нас абстаноўка вельмі напружаная. Як гэта па-руску... кальтэн... Халодная вайна, во!» — «Што ў вас там гавораць пра нас, пра Савецкі Саюз?» — «Праўдзівай інфармацыі амаль няма, усе весткі дзіка скажоныя. Пужаюць людзей, што рускія хочуць напасці на нас з атамнаю бомбаю, што яны ненавідзяць немцаў, распальваюць войны... А я вось ужо некалькі дзён хаджу, і хоць бы дзе адзін заклік да вайны знайсці — усе толькі да міру і дружбы». — «А вялікая ваша дэлегацыя?» — «1200 чалавек... Давялося пазмагацца, але Адэнаўэр урэшце адступіўся, пусціў нас... Нам бы часцей абменьвацца дэлегацыямі, моцную дружбу з вамі завязаць».

Вось так: мы хочам напасці з атамнаю бомбаю, мы распальваем войны... Запужаць народ, забіць галовы моладзі страхам перад рускімі. А ў мутнай вадзе і рыбку лягчэй лавіць. У свеце жахаў усякія маральныя каштоўнасці страчваюць сваю прыцягальнасць, ідэалы губляюць сілу, дык нашто да іх імкнуцца? Радуйцеся таму, што ёсць, сваёй «свабодзе і дэмакратыі», бо там, у рускіх, усё намнога горш... А тым часам ідзе рэанімацыя фашызму, так было ў 1957 годзе, яшчэ мацней раскручана зараз. У падручніках прапагандуецца, што граніцы ў Еўропе не канчатковыя, выдаюцца карты, дзе германскі рэйх паказаны ў межах 1937 года. Зямляцтвы немцаў з «усходніх» тэрыторый праводзяць свае мітынгі-шабашы, і на іх афіцыйна выступае, падтрымлівае сам федэральны канцлер Коль. Дзецям ва ўсіх школах рэкамендавана праглядваць фільм «Гітлер. Гісторыя кар'еры». А калі ты зацікавіўся, то чытай біяграфію Гітлера, раскошна і прывабна выдадзеную, чытай кнігі «Гітлер і жанчыны», «Гітлер у Парыжы», «Гітлер-палкаводзец». Зацікавілася дзіцятка цацкамі а ля танк «тыгр», самалёт «хейнкель» ці «юнкерс», то можна ўжо і больш складаную цацку купіць — дакладную копію канцлагера Асвенцім, і каштуе не дарага — 35 марак. Якія сімпатычныя фігуркі вязняў у паласатых робах, якія прыгажуны ахоўнікі-эсэсаўцы ў чорных мундзірах! Націскай во гэтую кнопку, убачыш, як забаўна ўсе яны ажываюць, забегаюць... Як весела ім там было, цікава жыць!..

А тым часам інструктары НАТА вышкольваюць бойскаўтаў з самымі сапраўднымі аўтаматамі ў руках, як лавіць «чырвоных» парашутыстаў, як

(Заканчэнне на стар. 14—15).




Мы, хлапчукі ваеннай пары, мужчынскай вернасці, дружбе і мужнасці вучыліся ў нашых бацькоў і старэйшых братоў. Не пра сябе, не пра сваё геройства расказвалі яны, вярнуўшыся з вайны, а пра сваіх сяброў. Мужнасці вучылі нас і кнігі. Уся выдатная літаратура ваеннай пары — гэта, па сутнасці, расказ пра таварышаў па зброі, пра сяброў-аднапалчан. Памятаеце простыя і шчымліва-даверлівыя радкі Канстанціна Сіманава: «Был у меня хороший друг—куда уж лучше быть, — да все, бывало, недосуг нам с ним поговорить. То уезжает он, то я. Что сделаешь —война... Где настоящие друзья — там дружба не видна»? Ці гэтыя вось, Пімена Панчанкі: «Годы мае агнявыя! Памяць навек устрывожана... З намі сябры франтавыя каля агеньчыка кожнага».

Сябрамі іх рабіў суровы лёс вайны, штохвілінная пагроза смерці, высокая і грозная адвага змагання. Вайна зводзіла ў адзін акоп, у адзін экіпаж, у адну атаку самых розных людзей, бязлітасным агнём выпальвала дробязнае, эгаістычнае, сплаўляла навечна душы...

**...Даўно хацеў расказаць пра чалавека, якім захапляюся, на якога стараюся раўняцца, дружбай з якім вельмі даражу. Не перастаю здзіўляцца яго душэўнай адкрытасці, гатоўнасці памагчы чалавеку, на нейкі момант забыўшы пра сябе, яго кіпучай грамадскай дзейнасці. Хоць век яго не малады, хоць у вайну неаднойчы быў на краёчку жыцця і зараз—інвалід Вялікай Айчыннай. І пасля вайны не ўсё цякло гладка — ад таго інфарктныя рубцы на сэрцы...**

**Сам журналіст, ён, дазнаўшыся пра мой намер, рашуча запратэставаў: маўляў, навошта гэта, і не думай, ды і што пра мяне можна напісаць! Затым раптам загарэўся:**

**— Дам табе кандыдатуру для нарыса, аповесці, для чаго хочаш... Во дзе сапраўдны герой вайны! Мы яго камісарам звалі. Ён і быў камісарам, а пасля намеснікам камандзіра нашай танкавай брыгады. Усе грудзі ў ордэнах, чатыры — Баявога Чырвонага Сцяга... О-о, гэта быў герой! Лез у самае пекла, у самы агонь—і хоць бы што... Абыходзіўся лёгкімі раненнямі. Ты запішы яго тэлефон, адрас, ён жыве ў Мінску. Прозвішча запішы — Фёдар Сямёнавіч Манькоўскі, палкоўнік у адстаўцы. От каб ты пабачыў яго сорак гадоў назад... Прыгажун, чорны, ажно смаляны чуб, агністы позірк — ну, ведаеш, хоць карціну з яго пішы... А вясёлы, жыццялюб, нават калі неба здавалася з аўчыну, падыдзе, скажа нешта вясёлае, з жартам—і, паверыш, усё роўна як сілы прыбаўлялася... На Дуклінскім перавале ў Чэхаславакіі мы трапілі ў пераплёт, там надзвычай цяжкія баі былі, а мы з танкамі, з тэхнікай па горных дарогах разам з войскамі генерала Свободы. Гэта была бліскучая ваенная аперацыя, камандаваў ёй маршал Конеў, яна вырашыла ход баёў у Чэхаславакіі. Але далася яна нам цяжка. Там нас і развяло з камісарам, з Фёдарам Сямёнавічам.... Мне нехта сказаў, што ён загінуў на Дуклінскім перавале, і я доўгі час так лічыў. А пасля вайны, недзе ў шасцідзесятых гадах, сустрэліся з аднапалчанамі ў Маскве, адразу ўспомнілі Манькоўскага, я кажу: шкада, што загінуў, а адзін з нашых вочы на мяне вырачыў: ты што, чалавеча, жывы твой Манькоўскі і, галоўнае, у адным з табой горадзе жыве, у Мінску... Вось такая гісторыя... Пра яго трэба напісаць, а пра мяне не варта...**

Што ж, я паслухаўся, пазваніў Фёдару Сямёнавічу Манькоўскаму, дамовіўся аб сустрэчы. У шаснаццаць гадзін дня, стараючыся быць па-вайсковаму дакладным, прыйшоў у чатырохпавярховы дом на вуліцы Кнорына. Двухпакаёвая кватэра старой планіроўкі, небагатая, нешыкоўная, з духам даўняй абжытасці. Фёдар Сямёнавіч Манькоўскі з'яўляецца перад маімі вачыма адразу ў двух абліччах: рэальным—сівавалосы, злёгку прыгнуты гадамі, але з маладымі цёмнымі вачамі — і партрэтным: прыгожы, сапраўды прыгожы, чорнавалосы, з цвёрда акрэсленымі правільнымі рысамі твару, у вайсковым кіцелі з пагонамі падпалкоўніка і шчыльнымі, густымі радамі ўзнагарод.

Зараз у кватэры ён адзін— жонка пайшла да суседкі, дачка з сям'ёю даўно жыве сваім домам. Фёдар Сямёнавіч прыглядаецца да мяне, як бы прыкідвае, ці варта з гэтым госцем пускацца ў размову. Аднак за маёй спіной аўтарытэт яго франтавога таварыша — гэта, вядома, не можа не адбіцца і на маёй асобе. Ён на хвіліну задумваецца, скіроўвае позірк за акно, дзе прамільгнуў сінім ценем тралейбус, задае мне, а на самой справе — сам сабе пытанне: «Ну, што вам расказаць з доўгага майго жыцця?» І той жа налёт сумнення: а, можа, не варта? Мала што было, жыццё пражыта, будзем спадзявацца, недарэмна, і ці ад мяне залежала, што яно пражыта менавіта так, а не інакш...

Я ж па даўняй журналісцкай завядзёнцы прашу пачаць з самага-самага — з таго часу, як стаў разумець сам сябе і навакольны свет.

— Нарадзіўся ў Магілёве, да рэвалюцыі яшчэ, — пачынае спакваля разгойдваць воз успамінаў Фёдар Сямёнавіч. — Бацька быў рабочы, пралетарый, працаваў то ў горадзе, то на сельскай гаспадарцы ў Буйнавічах, у той вёсачцы, што стала славутай у вайну, дзе праходзіла абарона ў сорак першым... Ну, маё пакаленне гадавала ўжо Савецкая ўлада, вучыла, клапацілася пра хлеб і пра апратку: у канцы дваццатых я заканчваў прафесійна - тэхнічную школу, рыхтаваўся стаць фармоўшчыкам. Увогуле, мы рыхтаваліся тады быць не фармоўшчыкамі, токарамі там ці сталярамі, а камунарамі, барацьбітамі за вызваленне працоўнага люду з-пад улады капіталу, яго магільшчыкамі, адным словам. Стараліся не прапусціць нічога з таго новага, што адбывалася вакол... Надзвычай цікава было жыць. Ну, але маладым у кожную пару цікава... У прафтэхшколе ў 1929 годзе ўступіў у партыю —малады камсамольскі актывіст, сакратар ячэйкі, я і не думаў пра нейкі іншы шлях. Толькі з партыяй, толькі ў яе радах...

Ён павольна, з некаторым намаганнем разгінаецца, ідзе ў другі пакой, прыносіць кардонны карабок з паперамі, альбом у ім. Потым паварочваецца на крэсле, цягнецца да пінжака на спінцы крэсла, паказвае на невялікі значок з профілем Ільіча.

— Вось гэта—у гонар пяцідзесяцігадовага майго членства ў партыі, цяпер ужо — пяцьдзесят шэсць...

— Доўга вам давялося працаваць фармоўшчыкам? — стараюся вывесці яго з задуменнага маўчання, з якім ён няўважліва перабірае паперы ў карабку.

— Не, нядоўга... Абстаноўка ў свеце мянялася хутка, і нас пасылалі туды, дзе была большая патрэба. Памятаеце з гісторыі такі лозунг: кадры вырашаюць усё? Для вас ён, магчыма, гучыць абстрактна, Кадры—нежывое слова, а кадрамі былі мы, дваццацігадовыя. Спярша мяне паслалі на вучобу ў Мінскі планава - эканамічны інстытут, цяпер народнай гаспадаркі, а адтуль—адразу ж у Горкаўскую бранятанкавую школу. У 1934 годзе я служыў на Далёкім Усходзе, камандзірам вучэбнага ўзвода. Вучэбны ўзвод стаў баявым у 1938 годзе ля возера Хасан...

Ён дастаў з карабка цемнаваты ад часу медаль, падаў мне і спытаў:

— Які там нумар на адваротным баку?

— Дзвесце чатырнаццаты.

— А медаль — «За баявыя заслугі», у арміі яго высока ставяць. Мне дастаўся дзвесце чатырнаццаты, у першым загадзе аб прысуджэнні гэтай узнагароды. За ўдзел у баях ля возера Хасан першая мая баявая ўзнагарода. Тады там, на Далёкім Усходзе, было найбольш неспакойна. А ў кастрычніку 1941 года, калі немцы былі пад Масквой, нашу танкавую дывізію, якой камандаваў палкоўнік Гетман, у канцы вайны генерал арміі, у спешным парадку перакінулі ў Падольск. Мы стаялі на паўднёвых подступах у раёне Кашыры, Серпухава. 30 снежня вызвалілі Калугу. А ў лютым 1942 года я атрымаў прызначэнне ў 185-ю асобную танкавую брыгаду камісарам і разам з ёй трапіў на Ленінградскі фронт у раёне Сінявінскіх балот. Мы ваявалі ў складзе Волхаўскага фронту, але павінны былі прарваць лінію фашысцкай абароны і злучыцца з Ленінградскім фронтам. Там цяжкія былі баі, крывавыя. І там я атрымаў першы свой ордэн Баявога Чырвонага Сцяга. Цікавая, між іншым, выйшла гісторыя. Я быў камісарам брыгады. Якая галоўная задача стаяла перад намі? Падтрымліваць высокі баявы дух войск. А як яго падтрымліваць, калі мы пацярпелі няўдачу ў гэтым напрамку, злучыцца з войскамі Ленінградскага фронту не ўдалося, прычым панеслі вялікія страты?.. Канечне, выкарыстоўвалі ўсе сродкі агітацыі, аднак не ўсякаму слову людзі паверацъ...

Ён пагартаў альбом і спыніўся на той старонцы, дзе была прыклеена невялікая газетная заметка. Прыкрыў яе рукой, каб я загадзя не прачытаў яе, і растлумачыў.

— Зараз пакажу вам зводку Саўінфармбюро тых часоў. Яе передрукавалі ўсе цэнтральныя газеты, дык я ўзяў і паслаў «Красную звезду» сваёй жонцы, яна жыла ў эвакуацыі на Алтаі. Ну, а жонка, бачыце, захавала заметку...

Пасля гэтых слоў ён падсунуў мне альбом, і я прачытаў загаловак: «Подзвіг камісара Манькоўскага». Заметка была напісана ў стылі тых часоў: скупа, толькі самае галоўнае, населеныя пункты пазначаліся ўмоўнай літарай Н.

— Я раскажу крыху падрабязней. Населены пункт Н.— гэта горад Кірышы. Мы прарвалі тут абарону, і я на танк Т-34 пасадзіў дэсант з шасці чалавек і вырашыў разведаць абстаноўку. Раптам па брані зацюкалі кулі. Адкуль гэта? Ага, з дзота, які мы не заўважылі. Тады я разварачваю вежу, прыцэльваюся—і снарадам па амбразуры. Кулямёт адразу захлынуўся, з дзота, як абгарэлыя мышы, фашысты з узнятымі рукамі. Ого, гэта многа значыла тады — убачыць фашыста з узнятымі рукамі. Мы ўзялі іх у палон, дапыталі камандзіра роты. У мяне ў дэсанце быў ленінградзец, студэнт, добра ведаў нямецкую мову. Немец кажа, што яны больш за суткі не мелі ніякай сувязі са сваімі і думалі, што трапілі ў акружэнне. Я пытаюся: дзе яшчэ вашы апорныя пункты? Адказвае: тут яшчэ тры дзоты. Добра. Заходзім з тылу, і я кажу: падыходзь да сваіх дзотаў і гавары пра акружэнне, угаворвай іх здавацца. Ну, ён так і зрабіў. Пяцьдзесят дзевяць чалавек узялі мы тады ў палон і прывялі іх проста на камандны пункт 4-й стралковай арміі, а там якраз знаходзіўся камандуючы Волхаўскім фронтам генерал Мерацкоў. Выслухаў мой даклад, абняў мяне і кажа: ты сам не разумееш, што ты зрабіў, батальённы камісар. І ад'ютанту: тут жа ўзнагародзіць яго ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга, і сам прыкруціў яго мне... Так вось вялася наша палітработа ў вайну. Як гісторыкі назвалі партыю ў гады вайны? Ваюючая партыя—во як!

Ён выбраў з груды фотаздымкаў адзін, на якім сфатаграфавалася вялікая група афіцэраў і, хітра бліснуўшы чорнымі вачамі, спытаў:

— Ну, ці знойдзеце вы тут свайго знаёмага?

Я падумаў, што гаворка ідзе пра яго і пачаў шукаць сярод афіцэраў чорнавалосага, з прыгожымі правільнымі рысамі твару — свайго субяседніка Фёдара Сямёнавіча. Але ён засмяяўся, паказаў пальцам на фатаграфіі:

— Вось каго вы павінны былі пазнаць — Алега Мікітавіча Аўрамчанку.

Тут я павінен зрабіць адступленне і звярнуцца непасрэдна да вас, паважаны Алег Мікітавіч. Я не вінаваты, што не стрымаў свайго слова і загаварыў пра вас. Так павярнулася размова. Ды яна абавязкова павінна была закрануць і вас, бо, расказваючы пра свой баявы шлях, Фёдар Сямёнавіч не мог не згадаць пра баі пад Львовам у ліпені 1944 года, а ў тых баях прымалі ўдзел і вы. Былі начальнікам штаба мотастралковага батальёна, не памыляюся? Я вас нарэшце пазнаў у падцягнутым капітане на фотаздымку. Пад Львовам вы стрымалі магутную хвалю варожых войск, якія рваліся ад горада Броды на Львоў на злучэнне са сваімі сіламі. Яны наваліліся на вас раптоўна ў раёне горада Золачава. Назвы гэтых гарадоў вайны аддаюцца болем у вашых ранах, іх не забыць вам ніколі...

— Там нам было горача, — гаворыць Фёдар Сямёнавіч проста, як сказаў бы пра лазню ці пра спякотны звычайны дзень. — Пад Вінніцай сотую танкавую брыгаду, якая дзейнічала на галоўным напрамку наступлення, так моцна пашкуматалі, што загінула ўсё камандаванне. І камандзір і намеснік, амаль увесь штаб. А я быў тады начальнікам разведкі 11-га гвардзейскага танкавага корпуса, які ўваходзіў у састаў 1-й танкавай арміі генерала Катукова. Выклікае мяне Катукоў, загадвае: пойдзеш намеснікам камандзіра сотай танкавай брыгады. І вось накіроўваюць нас у раён Львова. Камандзір брыгады з двума батальёнамі пайшоў наперад, а мне загадаў падцягвацца з рэшткамі брыгады. Пад Золачавым мы сустракаем нашу мотастралковую часць, якая наткнулася на моцныя сілы немцаў, уступіла ў бой, але без падтрымкі танкаў і артылерыі панесла вялікія страты і цяпер адступала. Да майго танка пад'язджае на легкавіку генерал-лейтэнант, пытаецца, куды накіроўваюся. Я дакладваю: маю загад камандзіра прыбыць у такі вось раён. Генерал перапыняе мяне: адставіць, даю другі загад. Я разумею, што гэта значыць — не выканаць загад свайго камандзіра, таму прашу: дайце загад пісьмова. Ён піша на паперцы і дае ўводную: разгарнуць танкі насустрач немцам, якія пруць з Бродскага напрамку. Убачылі мотастралкі, што мы рыхтуемся к бою, пачалі займаць абарону. Гэта вельмі важна, калі сярод панікі, разгубленасці людзі бачаць прадуманыя, талковыя дзеянні. Вось гэта—самая разумная і дзейсная агітацыя. Ну, наляцелі яны на нас, як шалёныя. Тут і танкі, і артылерыя, і пяхота. Я кажу . так горача было, што не прадыхнуць. Мы іх прыпынілі, але не ведаю, колькі ўтрымлівалі б, калі б не падаспеў дывізіён РС, «кацюш» нашых. Яны выйшлі на пярэднюю лінію агню—і шуганулі некалькімі залпамі. І мы пайшлі ў наступленне...

Ён узяў фотаздымак, на якім сярод афіцэраў быў Алег Мікітавіч Аўрамчанка, паўзіраўся ў яго, адносячы далей ад вачэй.

— Мяне тут няма, бо гэта наш мотастралковы батальён, дзе Алег быў начальнікам штаба. Во колькі тут людзей, а пасля Золачава палова загінула... Загінуў і камандзір гэтага батальёна, Алег стаў камандзірам, з ім прайшлі з баямі ўсю Польшчу да Дуклінскага перавалу. Там яго параніла, ён трапіў у шпіталь, надоўга разышліся нашы дарогі... А камандзір быў надзейны. Танкісты без мотастралкоў — што вожык без калючак. Яны не давалі ворагу біць па танках з «фаўстаў», кідаць гранаты, ды мала што... З Алегам было надзейна... Мы часта гаворым пра франтавую дружбу, песні спяваем пра самакрутку, адну на дваіх, пра іншае, так і было, але не ў гэтым сутнасць франтавой і ўсякай іншай дружбы. Яна павінна быць надзейная, цвёрдая, без усякага эгаізм На вайне дружба мацавалася крывёю, крывёю ж змывалася і віна. І перад сябрамі, і перад Радзімай...

Сцямнела. Фёдар Сямёнавіч запаліў святло, пастаяў перад акном, як бы не жадаючы пакідаць за ім рэшткі дня, павярнуўся да мяне, сказаў з лагоднай усмешкай:

— Дзе ж гэта мая гаспадыня? Загаварылася недзе... Мы з ёй летась справілі залатое вяселле. Яна таксама магілёўчанка, жылі на адной вуліцы. Прыехаў аднойчы з Далёкага Усходу на пабыўку, бачу, нявеста для мяне вырасла—ну, я і яе павёз на Далёкі Усход. Ведаеце, на вайне было лягчэй таму, у каго тылы засталіся моцныя, я кажу пра сем'і, што чакалі нас дома. Вось і ў мяне быў моцны тыл... Пасля вайны давялося паездзіць па краіне, быў камандзірам палка ў Туркестане, адтуль і прыехалі на сваю радзіму, у Беларусь... Цяпер я поўны пенсіянер, нідзе не працую, але прыходзяць часта піянеры, клічуць у школу, на сустрэчы з моладдзю—трэба ім ведаць пра наша жыццё... А жыццё склалася цікавае, павучальнае. Я і кажу маладым: пачынайце правяраць адзін аднаго ў дружбе, у вернасці. Не разменьвайцеся на дробязнае—усё прыкладзецца да жыцця, калі ў ім ёсць галоўнае—вернасць, вялікая ідэя.

Што ж, я ўжо казаў, што маё пакаленне вучылася вернасці і мужнасці ў іх, нашых бацькоў і старэйшых братоў...

**Яўген РАДКЕВІЧ.**

# А драматург ён малады...

Штрыхі да партрэта

Аляксея ДУДАРАВА



Неяк давялося мне пачуць ад чалавека, які мае самыя розныя дачыненні да тэатра, у тым ліку выступае як крытык, што п'еса — так, накід для рэжысёра, чарнавік, варыянт спектакля. Маўляў, толькі там, на сцэне, выяўляюцца характары, акрэсліваецца канфлікт, а тут, на пісьме, толькі словы, словы, словы... Як ні дзіўна парафразы на гэтую тэму даводзілася чуць і ад драматургаў — па службовым абавязку такія размовы здараліся.

Яно, канечне, што ж гэта за п'еса, якая не ведае сцэны? Аднак... Паслухаем чалавека, якога ну ўжо аніяк нельга абвінаваціць у піетэце перад драматургам — рэфарматара, эксперыментатара, фантасмагарычна нечаканага ў сваіх сцэнічных прачытаннях літаратуры Усевалада Меерхольда: «Мы ведаем іспанскі тэатр XVII стагоддзя таму, што ён пакінуў нам п'есы Цірса дэ Маліна, Лопэ дэ Вэга, Кальдэрона, Сервантэса. Мы ведаем французскі тэатр XVII стагоддзя таму, што ён пакінуў нам пышную бібліятэку Мальера». Далей ідзе зусім ужо катэгарычная рэпліка: «Явіў сваё аблічча рэпертуар». Усё-такі рэпертуар. Першаснае слова. Гаворыць пастаноўшчык, ад фантазій якога ў свой час мог знямець самы смелы прыхільнік навацый.

Ці не таму сёння так шырока інсцэніруецца добрая проза? Слова майстроў. Сапраўднае слова.

Апошнім часам з'явілася нямала выданняў драматургіі: альманахі, зборнікі п'ес. Друкуюцца аўтары, пра якіх мы даўно ўжо чыталі розныя водгаласы: там ставяць — не прабіцца, аншлагі, тут рыхтуюць да пастаноўкі. Таямніцы і паўтаямніцы губляюць расплывістасць няведання і набываюць абрысы канкрэтнага знаёмства. Нешта пацвярджаецца, сёе-тое расчароўвае, нешта адкрываецца, з нечым падбівае актыўна спрачацца. А галоўнае — адкрываецца шырокая магчымасць урэшце ўразумець, што ж пішуць сёння драматургі.

Відавочна саступілі месца на гэтых тэкставых «плацдармах» аскетычна рытарычныя дзелавыя людзі накшталт Чашкова і Пранчатава, а настальгічная вера А. Марчанкі ў ператварэнне біяэнергіі прагматыкаў такога кшталту ў станоўчую сацыяльную сілу выклікала бурную нязгоду калег па цэху (А. Галоўскі, Ф. Кузняцоў). З'явіліся героі А. Гельмана, мастака шырокай і смелай сацыяльнай думкі, сацыяльна актыўныя героі п'ес Шатрова, Рошчына. І — героі тых п'ес, у якіх праўдападабенства і пазнавальнасць становяцца настолькі ідэнтычнымі рэальнаму жыццю, што ўспамінаюцца не на салонныя журфіксы разлічаныя словы М. Гогаля, калі ён гаварыў пра тое адчуванне мастацкай меры А. Пушкіным, што не дазваляла вялікаму яго сучасніку браць «растрепанную действительность нагишом» (перакладаць не рызыкую). У памянёных п'есах, а больш за ўсё гэта праглядваецца ў стварэннях Л. Петрушэўскай (асабліва «Тры дзяўчыны ў блакітным») і А. Галіным («Усходняя трыбуна»), не скажаш каб рэчаіснасць была непапраўна аголена, але ж апранута пахатняму. Узнікае катэгарычная неабходнасць калі не ў святочным ці візітовым убранні, дык у нармальным, штодзённым. Крытык Хлаплянкіна, праўда, пабачыла ў спектаклі Маскоўскага тэатра імя Ленінскага камсамола па п'есе Петрушэўскай не толькі неўтаймоўную любоў да прозы жыцця, але і яго паэзію. Спектакль — гэта спектакль, усё магчыма. Але, па шчырасці, пры чытанні п'есы, праз незалаплены дах дачы, вакол якога круціцца адна з сюжэтных ліній, неба нек не праглядваецца, ні з дыяметрамі, ні без іх. Усё з таго фатаграфічнага раду — як было, а не з асэнсаванага — як бывае.

Чалавечай натуры ж спрадвеку было ўласціва імкненне бачыць высокае неба і адчуваць прысутнасць законаў, маральных таксама... І прагне чалавек ачышчэння, славутага катарсісу. Сцвярджэння гармоніі светапарадку.

Тэатры кожны сезон чакаюць новых п'ес, перш за ўсё пра сучаснасць. Разам з класікай — яны складаюць аснову рэпертуару. Чакаюць і гледачы прэм'ер спектакляў па сучасных п'есах. Чытаюць новае слова драматургаў.

Апошнім часам з'явіўся Аляксей Дудараў і за некалькі год заняў у не беднай беларускай драматургіі трывалае месца. Ашаламляльна хутка, за нейкія пяць год, зрабіўся адным з самых папулярных драматургаў Савецкага Саюза. Драматургам, чые творы адзначаны прэміямі Ленінскага камсамола і Ленінскага камсамола Беларусі. Драматургам, якога ставяць такія рэжысёры, як Г. Таўстаногаў, драматургам, што становіцца ўладальнікам спецыяльнага прыза фестывалю «Прыбалтыйская вясна» за стварэнне п'ес «Парог», «Вечар», «Радавыя», прыза за сцэнарый фільма «Белыя росы». А вылучэнне на Дзяржаўную прэмію СССР п'есы «Радавыя» гаворыць само за сябе.

Адразу хачу зазначыць: сцэнічныя інтэрпрэтацыі п'ес А. Дударава — не тэма сённяшняй гаворкі, размова — пра пісьменніка Дударава. А п'есы яго — факт літаратурны. Адметны факт. З'ява.

Да таго, як пісаць п'есы, Аляксей Дудараў выйшаў да чытача з прозай. У 1979 годзе была апублікавана яго кніга «Святая птушка», у 1981 — рускае выданне кнігі. Выданне, што было заўважана і саюзнай прэсай (была, прынамсі, рэцэнзія ў «Литературном обозрении»), што не так часта здараецца з першай кнігай. Рэцэнзент з Данецка С. Мядоўнікаў, які вядзе гаворку пра беларускую літаратуру «з вучоным выглядам знаўцы», там таксама трымаецца прынятай манеры. Ён кідае, што «першыя крокі ў літаратуры можна лічыць удалымі, і зараз перад А. Дударавым устае сур'ёзная задача далейшага самавызначэння». Данецкі крытык не абыходзіць маладога празаіка і заўвагамі: эскізнасць, прыблізнасць, слабая матываванасць учынкаў герояў, занадта настойлівая прыхільнасць да вясковай тэматыкі. Наконт недастатковай дэтэрмінаванасці нейкіх сюжэтных хадоў аўтар рэцэнзіі, мабыць, мае рацыю. Але... Мне таксама надарылася рэцэнзаваць той зборнік на рускай мове (у «Немане»), і мушу сказаць — не з сённяшнім рэверансам славутаму ўжо аўтару, а па тым сваім уражанні, яно засведчана тэкстуальна — мне яго проза не падалася эскізнай. Не ўявілася эстэтычнай крамолай і прыхільнасць традыцыйная, беларуская, да вясковай тэматыкі. Хоць відавочна праглядвалася перавага характарнасці («Святая птушка», «Кола», «Мульцік») над лірыка-рамантычнымі спробамі пяра («Макараў вір», «Зоркі над горадам»). І было відаць адметная рыса таленту Аляксея Дударава — выразнасць аўтарскай пазіцыі, уменне паказаць характар праз учынак, часам нават здарэнне, без дыдактыкі і прасталінейнасці. І — выдатныя моўныя характарыстыкі персанажаў. Нездарма некалькі яго апавяданняў неўзабаве былі экранізаваны.

Аднак хацелася б вярнуцца да гэтага — выразнай пазіцыі аўтара, яго, Дударава, веры ў нязбытныя чалавечыя каштоўнасці — справядлівасць, дабрату, разуменне. Сацыяльна акрэсленыя каштоўнасці. Здатнасць не туляцца па закутках усведамлення, не спакушацца паўпраблемамі, мініпраблемамі. Галоўныя высновы быцця, сэнс жыцця, абсурднасць нікчэмнага існавання — так схематычна можна акрэсліць творчы яго кірунак. Гучыць, можа, дэкларатыўна. Але паспрабуем канкрэтызаваць.

А. Дудараў прыйшоў у драматургію з добрым усведамленнем асноўных уласцівасцей жанру — сцісласць і адабранасць падзей, асаблівая вобразная арганізаванасць, узбуйненасць катэгорыі часу, маральная напружанасць, выверанасць моўнай структуры. Хоць — дылетантаў сёння небагата «на тэатры». Што, як, чаму — не аднаму яму вядома. І ўсё ж такі — феерверкавы ўзлёт.

Удача? Нейкі элемент, вядома ж, ёсць. Але гэта той самы выпадак, у якім знайшла выяўленне ўсвядомленая неабходнасць. Малады беларускі драматург стаў упоравень з вядучымі драматургамі краіны.

Герой рэфлексуючы, сацыяльна калі не аморфны, дык, скажам так, пэўна не праяўлены, так шчыльна «ўвязаны» з побытам, што той пачынае здавацца ледзь не галоўнай сферай яго жыцця, трывала атабараваўся ў сучаснай драматургіі, хоць, відавочна, не ён ставае эпіцэнтр сённяшняга тэатральнага жыцця. Але ён вельмі актывізаваўся. Нават А. Гельман, герой якога заўсёды карэлятыўны з пэўнымі сацыяльнымі і маральнымі праблемамі, паспрабаваў сябе ў амплуа чалавека, які самавыяўляецца ў не звычайных для сябе, далёка не вытворчых абставінах «лірычнага круга» («Лаўка»). Аўтар там не завуаліраваны канчаткова, прасветлена чалавечны фінал выяўляе яго непасрэднае аблічча досыць ясна. Хоць ёсць выпадкі, калі пазіцыя аўтара бывае, мякка кажучы, нечаканая. Калі ўзяць напавер інфармацыю крытыка Ю. Смялкова, дык аўтар бліскуча напісанай п'есы «Глядзіце, хто прыйшоў!» узнаўляе канфлікт добрага з выдатным, і цырульнік Кінг і сям'я Табуновых-Шабельнікавых — «увогуле зусім дастойныя людзі, проста ў іх не супадае разуменне жыццёвых каштоўнасцей». Вось табе і маеш! Не супадае! А гаворка ж не пра густ да мармеладу. Гаворка — пра жыццёвыя каштоўнасці. І яно відаць у п'есе, гэтае несупадзенне. Яшчэ як! У няведанні законаў жанру ці невыразнасці пісьма Аро не папракнеш. Бліскуча! Адкуль жа гэтая самавыратавальная логіка, што абарочваецца самазнішчэннем?

А вось у гэтым, мне здаецца, адна з прычын поспеху А. Дударава: і чытач, і глядач, і, безумоўна, рэжысёры ўпадабалі яснасць сацыяльнага і чалавечага ідэалу яго п'ес. Акрэсленую, пэўную аўтарскую канцэпцыю.

У п'есе «Парог» станоўчы герой так і не з'яўляецца на сцэне. Гэта адзначалі многія крытыкі (напрыклад, А. Сабалеўскі), і не без падстаў. Сапраўды, пісьменніка Пакутовіча мы не пабачым. Магчыма, аўтар збаяўся, каб той не стаў дыдактычным рупарам яго ідэй. А ідэі гэтыя ў п'есе падымаюцца ці, лепш сказаць, паглыбляюцца ад надзвычай актуальнай праблемы — як знішчае асобу чалавека такое сацыяльнае зло як алкаголь — да прычын гэтага сацыяльнага зла. Яны бываюць розныя. Тут, у «Парогу», гэта бездухоўнасць існавання галоўнага персанажа, Буслая, падмена на нейкі час мэты існавання. Не рэчы для жыцця, а жыццё — для набывання рэчаў. І вось яны з'яўляюцца адна за адной, гэтыя рэчы і даброты. Арэчаўлены дабрабыт. Мэта дасягнута. Што далей? Святкаваць. На сваё разуменне — «налівайце чаркі». У хвіліны прасвятлення Буслай спрабуе сам вызначыць прычыны свайго, і не толькі свайго, падзення. Вось абурацца пузаты дзядзька — гэтага яму не хапае, таго. «Ніколі не скажа..., што яму веры, мэты, чысціні не хапае». Буслай раз'юшаны. Ён разумее падсвядома, што ёсць яны, павінны быць у чалавека. Але не меўшы сам у свой час нейкай духоўнай мэты, страціўшы натуральную, прыродную раўнавагу чалавека зямлі, ён не набыў стандарту бездухоўнасці, які, здавалася б, лагічна вынікаў як прагу яго жыцця — набывання. Ён расчараваўся і выламіўся з нармальнага жыццёвага круга ўвогуле. І духоўны патэнцыял, што ў яго ўсё ж быў, прарываецца і зараз у філіпіках супраць той сілы, якой ён не падпарадкаваўся, але якой і не змог супрацьстаяць. Зламаўся. Выкрасліў сябе з сям'і нармальных людзей.

У Андрэя Буслая няма вось той натуральнай сувязі з жыццём, што ў Васіля — Мульціка з п'есы «Вечар». Справа не толькі ў канкрэтным пацвярджэнні Васілём сучаснага экалагічнага ўсведамлення, што выводзіць як адзіную норму гармонію чалавека з прыродай. За Васілём тое, што ніяк не мог уцяміць Буслай. «Камунізм спачатку трэба будаваць у сваёй душы...».

За Васілём — адвечная мудрасць народа, чалавека зямлі. Тое, што ў апошнія хвіліны жыцця пачынае спасцігаць Мікіта па мянушцы Гастрыт: «Я здуру людзей жыць вучыў, а мне б хлеб расціць, дзяцей гадаваць... Гэта святое... Гэта ўсё...» У словах Гастрыта — не фіксацыя імгненнага перавыхавання, а ўразуменне, спасціжэнне, запозненае і цяжкім шляхам.

Сацыяльны вопыт Васіля яшчэ больш упэўніў яго ў святасці высновы: «Я хлебароб вечны... Хлеб раблю». І будзе даводзіць суседцы сваёй, Ганне (іх усяго траіх засталося ў вёсцы), формулу жыцця: «...мы з табой яшчэ толькі таму і жывем, што кожную раніцу па ваду ў гэты калодзеж ходзім, на сотках сваіх калупаемся... З зямлёй за доўгі век зрасліся, душой-сэрцам увайшлі ў яе». І з ганьбай кіне пра Мікіту: «А ён іначай і не жыў... Усё жыццё з чайнікам па ваду хадзіў...»

Безумоўна, усім вядома напісанае К. Чорным, І. Мележам, Я. Брылём, В. Распуціным, В. Астаф'евым, Ф. Абрамавым, В. Бяловым, Б. Мажаевым, І. Пташнікавым, В. Каразавым, А. Жуком пра адносіны чалавека з зямлёй, з прыродай як пра адзін з крытэрыяў яго чалавечага «я», пра свет чалавечай супольнасці, пра балючыя праблемы сённяшняй вёскі. Помняцца і «Пакуль арба не перавярнулася» А. Іяселіяні, і «Птушкі нашай маладосці» І. Друцэ. І досыць спрэчныя думкі пра адносіны чалавека з зямлёй А. Макаёнка («Таблетку пад язык»). Аляксей Дудараў тут не першаадкрывальнік. А п'еса Дударава ўсё ж прыцягвае тэатры не проста збалансаванасцю характараў і сітуацый, а глыбокім асэнсаваннем праблемы — праз мастацкую логіку вобразаў, дзеянняў, абставін. Мастацкай праўдай, а не праўдападабенствам.

Сёння мы часам пакідаем у баку выпрабаваныя мастацкай практыкай і тэарэтычна выснаваныя пастулаты і пачынаем апантана біць у ладкі — ах, маўляў, выхаплена з жыцця. А мастацтва ж мае свае законы, і асоба ў творы неідэнтычная асобе бытавой — пра гэта неяк фатальна забываемся. Затое абавязкова пазначым, што сюжэтны ход «Парога» перагукваецца з «Жывым трупам» Л. Талстога і што асабістая трагедыя Дугіна паўтарае драму Джэйкаба Барнса з «Фіесты» Э. Хемінгуэя. Але, як мы ўсе ведаем, гісторыя літаратуры мае доўгія спісы пераймаль-

(Заканчэнне на стар. 6—7).

най зброяй у адзінаборстве, ляжаць цяпер у маёй руцэ. І мне пачулася, як халаднаватай восеньскай ноччу аднекуль з глыбіні вострава праз адчайны рэў даносіцца сюды, у пасёлак, глухаваты стук голых ільбоў».

«Апавядальная струна»... Гэта творы пра пасляваеннае жыццё. Пра партызанскі парад у Мінску, пра традыцыйнае шэсце ветэранаў, пра жыццё адзінокай удавы Маланкі, муж якой, партызан Хведар, не выйшаў з блакады. «Хоць старой Маланцы з печы Хведаравай картачкі і не было відаць, яна ведала, што ён усміхаецца...» (дарэчы, з «печы» — гэта тое самае «ледзь-ледзь», якое і дапамагае стварыць праўдзівы, бачны малюнак). Пісьменнік удала паказвае, як старая жыве мінулым і адначасова, праз адносіны да суседзяў, цяперашнім людскім жыццём.

Сама назва «Літаратурная струна» вызначае тэму, змест гаворкі. Гэта літаратурная крытыка, своеасаблівыя эсэ, роздум пра жыццё і творчасць тых паэтаў, чые імёны вельмі дарагія пісьменніку. Назаву іх у такой паслядоўнасці, як яны пастаўлены ў аўтара: Янка Купала, Якуб Колас, Аляксандр Блок, Уолт Уітмен, Максім Багдановіч, Валянцін Таўлай, Аркадзь Куляшоў. Выдзяляецца артыкул «Глядзець на свет сэрцам» — пра маладую паэзію 70-х гадоў. Размова аб маладой паэзіі атрымалася прадметная і змястоўная, у ёй даволі выразна прасочваюцца некаторыя заканамернасці ў творчасці маладых.

Апошні раздзел («Іранічная струна») — гумар і сатыра. Не буду падрабязна спыняцца на ім. Многія творы з гэтага раздзела друкаваліся даўно. яшчэ ў час працы аўтара ў «Вожыку», і заслужылі ўхвалу. Наогул уся кніга — вынік шматгадовай працы аўтара. Хачу толькі падкрэсліць, што калі я разглядаю раздзелы кнігі паасобку, то гэта зусім не азначае, што кожны з іх жыве сам па сабе, не звязаны з іншым. Тая ж іронія і жарт сустракаюцца і ў апавядальнай і ў лірычнай «струнах». Было б нацяжкай гэта назваць дуэтам ці трыо, але пераклічка адчуваецца, яна ёсць. Вельмі бачна, яна, напрыклад, у творах пра рэвалюцыйныя падзеі на Далёкім Усходзе і ў апавяданнях пра партызана і ветэранаў Вялікай Айчыннай.

Няма сумнення, што ўсе «пяць струн» знойдуць адпаведны водгук у душы чытача.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

---

ецца на свае грошы хаваць Мікіту, ці чаму ён парываецца з'есці латарэйны білет, на які той выйграў машыну. Мне здаецца, гэта ў адрозненне ад не заўсёды пераканальна матываваных учынкаў і паводзін герояў некаторых яго апавяданняў тлумачыцца характарам Васіля. Ён захаваў уменне не толькі радавацца ўсім праявам жыцця, але і максімалізм маладосці, не з усімі, але з многімі яго перавагамі і недахопамі. Ён добры і шчодры, як юнак, ажно і непасрэдны і нястрыманы, як юнак. З добрым запасам адвечнай сялянскай мудрасці і набытай сацыяльнай відушчасці. Пры падрабязным і скрупулёзным аналізе пра сёе-тое можна было б яшчэ паспрачацца. Але — калі ісці ад пытання — удача ці заканамерны поспех спадарожнічае А. Дудараву, я аддала б перавагу заканамернасці.

Зараз Аляксей Дудараў — чалавек знакаміты, мала які буйны творчы форум абыходзіцца без яго выступлення або інтэрв'ю ў яго. І ён спакойна і з годнасцю нясе цяжар славы. Няхай яму хопіць гэтай натуральнасці на ўсё жыццё. Як для драматурга, ды яшчэ вядомага, Аляксей Дудараў па-добраму малады.

**Ала СЯМЁНАВА.**

---

**КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ**

# СПАГАДНЫМ СЛОВАМ ПРЫГАДАЛІ...

Падобныя кнігі і раней, вядома, выходзілі, але каб так адразу, адна за адной, здаецца, яшчэ не было. Пастараліся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», таму і пабачылі свет адначасова ладныя томікі «Максім Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакумент» і «Успаміны пра Цішку Гартнага». А цяпер выдадзены яшчэ адзін. На вокладцы такія дарагія сотням аматараў паэзіі словы: «Валянцін Таўлай». А разгортваеш кніжку і даведваешся, што ў яе ўвайшлі дакументы, успаміны, артыкулы, якія тычацца жыцця і творчасці нашага паэта-рэвалюцыянера, імя якога — з поўным на тое правам — можна паставіць поруч з імёнамі Хрыста Боцева, Шандара Пёцефі, Нікола Вапцарава і многіх іншых.

Ды хіба ў параўнанні справа? Галоўнае ў тым, што сам ён — паэтычная зорка першай велічыні. Галоўнае, што сам ні на кога не падобны. Адметны як творчая індывідуальнасць. Непаўторны шмат якімі абставінамі фарміравання і сацыяльна-грамадзянскага станаўлення.

Матэрыялы, прадстаўленыя ў зборніку — а яны сабраны разам, пад адной вокладкай, дзякуючы рупнасці дачкі паэта Галіны Валянцінаўны—даюць магчымасць ва ўсёй паўнаце адчуць, кім быў В. Таўлай у жыцці і кім застаўся ён у гісторыі беларускай савецкай літаратуры.

Яшчэ ў снежні 1947 года, праз нейкія восем месяцаў пасля заўчаснай смерці паэта, Максім Танк змясціў на старонках «Літаратуры і мастацтва» верш «Памяці тав. Таўлая», у якім, гледзячы далёка наперад, выказаў тое, у чым сёння ні ў кога быць сумнення не можа—права таўлаеўскай песні на неўміручасць:

Яго напевам выпаў слаўны лёс:  
Набатным звонам прагучаць над краем,  
Прайсці шляхі этапаў і бяроз.  
Сустрэць свабоду—светлы золак мая.

І сёння вы, каго паэт любіў,  
З кім разам жыў, у смерць яго не верце!  
Калі на час ён змораны спачыў, —  
На варце стойце славы і бяссмерця!

Гэты верш, а таксама радкі самога В. Таўлая: «Цёплай, сейбіцкай жменяй мы шчыра жыццё раскідалі, каб вясна расцвіла для людзей і на гэтай пакутнай зямлі», гучаць своеасаблівымі эпіграфамі да кнігі, асноўны змест якой — успаміны, згадкі, сведчанні людзей, што добра ведалі паэта, а некаторыя і самі разам з ім прайшлі нялёгкімі дарогамі рэвалюцыйнай барацьбы, сядзелі і пакутавалі ў турмах, змагаючыся за тое, каб беларускі народ мог жыць у адзінай і дружнай сям'і савецкіх народаў-братоў.

Пэўным адказам на тое, як уваходзіў В. Таўлай у жыццё і літаратуру, з'яўляюцца яго аўтабіяграфічныя нататкі, пазначаныя сціпла «Аўтабіяграфія» і незавершаныя — «Аб сабе (Спроба глянуць на сваё жыццё)». Аднак найбольш глыбей і паўней аб гэтым расказваецца ў вялікім мемуарным нарысе сябра паэта, вядомага дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, а пазней журналіста Я. Міско «Ён вершам краты пілаваў». Я. Міско давялося разам з В. Таўлаем і змагацца, і сядзець за кратамі. Згадкі яго цікавыя найперш тым, што дазваляюць убачыць Таўлая «не хрэстаматыйнага», а як чалавека, чуйнага і ўважлівага да іншых, цудоўнага таварыша, рэвалюцыянера-змагара, які ніколі не аддзяляў самой барацьбы ад паўнакроўнага жыцця. І, вядома, Я. Міско ўспамінае, як даводзілася паэту працаваць над вершамі, многія з якіх нараджаліся ў турме, адразу ж становячыся своеасаблівым паэтычным летапісам барацьбы заходнебеларускага народа супраць санацыйных улад.

Іншыя ўспаміны — «Дзве сустрэчы» С. Жука, «Незакончаная паэма» С. Анісава, «Той год...» М. Мінкевіча і М. Бурсевіча, «Разам з Валянцінам Таўлаем» П. Кулака — таксама напісаны паплечнікамі паэта па рэвалюцыйнай барацьбе. Безумоўна, усе гэтыя згадкі не прэтэндуюць на вычарпальнасць у падачы вобраза песняра-барацьбіта, але часам дастаткова нават маленькіх штрыхоў, каб лепш зразумець і адчуць, якім чалавекам ён быў. Такімі штрыхамі напоўнены ўспаміны «Паэт-барацьбіт» П. Пестрака, «Пасылка Валянціна Таўлая» А. Іверса, «Я ведала яго» Н. Тарас, вытрымкі з розных публікацый Я. Брыля, аб'яднаныя агульнай назвай «Памяці Валянціна Таўлая», а таксама блізкіх яму людзей — «Падарожжа ў мінулае» Л. Таўлай і «Як нас арыштоўвалі» Н. Таўлай.

Зразумела, пра рэвалюцыйную дзейнасць паэта вядома куды больш, чым пра яго работу ў друку, актыўную антыфашысцкую барацьбу ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У сувязі з гэтым набываюць значнасць успаміны «У барацьбе гартаваўся радок», напісаныя М. Вернікоўскім, які ў трыццатыя гады працаваў разам з В. Таўлаем у рэдакцыі маладзёжнай газеты «Чырвоная змена», а таксама сведчанні доктара фізіка-матэматычных навук, колішняга партызанскага сувязнога Л. Барысаглебскага «Успаміны пра Таўлая» і былога камандзіра групы асобага прызначэння партызанскага атрада імя Катоўскага, настаўніка М. Грабёнкіна «Палымянае сэрца паэта».

Багаты і разнастайны раздзел «Артыкулы». Месца паэзіі В. Таўлая ў гісторыі беларускай літаратуры ў розныя гады вызначалі многія аўтары. Паасобныя з гэтых публікацый — найчасцей у скарочаным выглядзе, каб не было непазбежнага ў падобных выпадках паўтору — змешчаны ў кнізе. Пра В. Таўлая, як паэта высокага рэвалюцыйнага гарту і паэтычнай культуры, сапраўднага песняра вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі гавораць А. Куляшоў («Непарыўная сувязь з жыццём»), Р. Бярозкін («Таварыш»), Б. Бур'ян («Заслуханы ў гучанне жыцця»), Г. Бураўкін («З вялікай літары»), Я. Сіпакоў («Паэзія, свабодная і ў няволі»), М. Арочка («Ідучы да запаветнага»), А. Клышка («Таварыш нашай вясны»), Ф. Яфімаў («Насустрач дням і велічным і ясным...»)

Змешчана нямала здымкаў, што адлюстроўваюць пэўныя моманты з жыцця і творчасці паэта. Ёсць падрыхтаваныя Л. Таўлай каментарыі, хоць, мабыць, па недаглядзе пры падрыхтоўцы рукапісу да друку — сказана не пра ўсіх аўтараў успамінаў. Завяршае кнігу грунтоўны паказальнік «Асноўныя даты жыцця В. П. Таўлая».

**А. КУНЦЭВІЧ.**

Валянцін Таўлай. Дакументы, артыкулы, успаміны. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.

---

# СУСТРЭЧА з паэтам

Усе, хто ведаюць Максіма Рыльскага толькі як паэта — праз яго бессмяротнае мастацкае слова, — маюць магчымасць пазнаёміцца з ім і як з чалавекам. Выдавецтва «Советский писатель» выпусціла кнігу «Успаміны пра Максіма Рыльскага», любоўна ўкладзеную дырэктарам літаратурна-мемарыяльнага музея М. Рыльскага ў Кіеве Багданам Рыльскім і вядомым маскоўскім літаратуразнаўцам Яўгеніяй Дэйч. Нават тых, хто сустракаўся з «незабыўным Максімам», гэтая кніга па-сапраўднаму зацікавіць. У ёй асоба пісьменніка паўстае і ў часе, і ў прасторы. Аўтары кнігі пераканаўча сведчаць пра тое, што М. Рыльскі ўсім жыццём, усёй творчасцю актыўна ўключыўся ў вырашэнне глабальных праблем веку, такіх, як мастак і грамадства, чалавек і гісторыя, чалавек і культура, нарэшце, чалавек і прырода. Прычым, знаёмячыся праз успаміны з асобнымі момантамі лёсу паэта, мы заўсёды судакранаемся з урокамі сапраўднай Чалавечнасці. І ў гэтым адна з галоўных вартасцей кнігі: яна мае не толькі пазнавальнае, але і вялікае выхаваўчае значэнне.

Кожнае слова-ўспамін арганічна ўпісваецца ў гэты своеасаблівы вянок памяці, створаны сябрамі паэта, яго таварышамі па пяру, шырэй — калегамі па яго шматграннай творчай дзейнасці. Аб тым, што Максім Тадэевіч быў чалавекам надзіва абаяльным, духоўна багатым, усебакова адораным і высакародным, ужо склалася нямала легенд. У кнізе гэтыя вусныя апавяданні атрымалі матэрыялізаванае пісьмовае пацвярджэнне. Такім чынам сур'ёзны, дзелавы тон размовы пра М. Рыльскага дапаўняецца і сардэчнай шчырасцю, і мяккім гумарам — якасцямі, якія так высока цаніў пры жыцці сам паэт.

Сааўтарамі кнігі выступаюць выдавецкія работнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы, рэжысёры, кампазітары, артысты. Аднак зусім заканамерна, што вядучае месца тут займаюць успаміны пісьменнікаў. Побач з вядомымі ўкраінскімі майстрамі мастацкага слова на чале з А. Ганчаром свае прызнанні ў любві, сведчанні павагі і пашаны выказваюць прадстаўнікі розных народаў нашай краіны і замежных краін, у развіццё культуры якіх М. Рыльскі ўнёс свой немалы ўклад. Даволі часта ўжо ў саміх назвах успамінаў раскрываецца і характар узаемаадносін іх аўтараў з М. Рыльскім, і тое высокае прызначэнне, якое надаюць яны паэту ў гісторыі міжнацыянальных культурных узаемасувязей. Так, запеўным для кнігі стала слова пра сябра, напісанае М. Ціханавым, з прамовістай назвай «Прарок зары». Успрыманне рускай літаратурай асобы М. Рыльскага выдатна прасочваецца ў выступленнях А. Пракоф'ева, М. Ушакова, В. Інбер, Л. Нікуліна, К. Чукоўскага, А. Дэйча, П. Жура, Л. Озерава. Пра значэнне дзейнасці ўкраінскага паэта нямала гаворыць і «геаграфічны дыяпазон» аўтараў зборніка ўспамінаў: тут і канадзец П. Краўчук, і паляк Ф. Неўважны, армянін Г. Баграсян, грузін С. Чыкавані, літовец А. Венцлава.

Цікава ўзбагачаюць воблік Максіма Тадэевіча і ўспаміны беларускіх пісьменнікаў. «Жыццялюб» — пад такім загалоўкам увайшлі ў кнігу некалькі старонак, якія прысвяціў свайму ўкраінскаму сябру наш П. Броўка. «Культура і душа» — так вызначыў свае штрыхі да партрэта М. Рыльскага Я. Брыль.

Фатаграфіі, што ўключаны ў кнігу, не толькі ўдала ілюструюць біяграфію М. Рыльскага. Разумна падабраныя, яны раскрываюць шырыню асабістых кантактаў украінскага паэта. Мы бачым яго ў ваеннай Уфе, на фронце, на антыфашысцкім мітынгу ў Югаславіі, пад час выступлення ў Маскве на сесіі Вярхоўнага Савета СССР і сярод удзельнікаў народнага ансамбля ў Францыі, пры сустрэчы з У. Бранеўскім. Луі Арагонам, С. Вургуном, А. Даўжэнкам, М. Шолахавым, К. Сіманавым, А. Ісаакянам, С. Зар'янам, М. Ібрагімавым, Л. Ляонавым, А. Твардоўскім, К. Федзіным, В. Катаевым... Не ў статыцы, а ў дынаміцы творчага яднання з украінскім паэтам зафіксавала фотакамера кантакты М. Рыльскага з П. Броўкам і Я. Брылём.

Кампазіцыя кнігі сапраўды прадумана добра. І як арыгінальны сюжэтны ход успрымаецца яе канцоўка. Гэта «Аўтабіяграфія» паэта. Напісаў ён яе ў апошнія гады свайго жыцця, займае яна ў тэксце кнігі друкарскі аркуш, і гучыць гэтая аўтабіяграфія як своеасаблівая грунтоўная справаздача Максіма Тадэевіча перад сваімі сябрамі і калегамі, апошняе яго «дзякуй» і «прабачце», як апошні паклон Радзіме, народу, чытачам...

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ.**

Успаміны пра М. Рыльскага. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1984.

*Да 575-годдзя Грунвальдскай бітвы*

# НЕЗАБЫЎНЫ ГОД ГІСТОРЫІ

15 ЛІПЕНЯ 1410 года — адна з вялікіх дат у гісторыі славянскіх і літоўскага народаў. У гэты дзень была спынена агрэсія нямецкіх рыцараў - крыжакоў на польскія, літоўскія і беларускія землі.

Палітыка агрэсіі нямецкіх феадалаў, накіраваная на захоп славянскіх зямель, знішчэнне ці падпарадкаванне сабе славянскіх народаў («Дранг нах Остэн» — «Націск на Усход»), пачалася яшчэ ў X стагоддзі, але першыя спробы захапіць землі палабскіх славян, на ўсход ад Лабы (Эльбы), на большай частцы сучаснай тэрыторыі ГДР, былі адбіты. У XII ст. нямецкія феадалы захапілі землі на ўсход ад Лабы, знішчылі, а часткова падпарадкавалі сабе і паступова анямечылі паморскіх і палабскіх славян і стварылі тут некалькі феадальных княстваў, маркграфстваў і графстваў. У пачатку XIII ст. пачаўся новы этап «Дранг нах Остэн». Ягоным галоўным накірункам стала Прыбалтыка. У 1202 г. былі створаны духоўна - рыцарскі Ордэн мечаносцаў для захопу зямель прыбалтыйскіх народаў. У 1226 г. у паўднёвай частцы Усходняй Прыбалтыкі з'явіўся Тэўтонскі ордэн, яшчэ адна арганізацыя рыцараў-манахаў, якія пачалі захоп зямель прусаў. У XIII ст. гэтая тэрыторыя (цяперашняя Калінінградская вобласць і польскія землі на поўдзень ад яе) была захоплена. Ва Усходняй Прыбалтыцы рыцары-крыжакі захапілі Лівонію і Курляндыю, на тэрыторыі якіх яшчэ не было дзяржаўнасці, і пачалі барацьбу з удзельнымі княствамі Полацкай зямлі на рацэ Заходняй Дзвіне. У 1236 г. аб'яднаныя сілы літоўцаў і зямгалаў (адно з плямён, што ўдзельнічалі ў стварэнні латышскай народнасці) разбілі ўшчэнт войска мечаносцаў, пасля чаго ў 1237 г. недабіткі мечаносцаў зліліся з Тэўтонскім ордэнам і стварылі ва Усходняй Прыбалтыцы яго філіял — Лівонскі ордэн.

Адначасова ў 1237 г. валынскі князь Даніла Раманавіч разбіў пад Драгічынам Надбужскім на рацэ Заходні Буг крыжакоў і вызваліў Драгічынскую воласць Берасцейскай зямлі. Аляксандр Неўскі ў 1242 г. разграміў нямецкіх рыцараў і спыніў іх націск на Ноўгарадскую зямлю.

Захапіўшы вялікую тэрыторыю ў Прыбалтыцы, Тэўтонскі ордэн на працягу двухсот год рабаваў заходнюю частку Літвы—Жэмайцію, пагражаў Ноўгарадска-Пскоўскай зямлі, ваяваў супраць Польшчы. Нямецкія рыцары ў гэты перыяд часта накіроўвалі свае атрады і рабавалі літоўскія і беларускія землі. Практычна Літва і заходняя частка Беларусі ў XIV ст. падвяргаліся пастаянным нападам крыжакоў. Літоўскаму і беларускаму народам, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, пагражала страшэнная небяспека. Яны маглі падзяліць лёс заходніх славянскіх плямён і прусаў. Крыжакі стварылі пагрозу і Польшчы. Канец XIV ст. характарызуецца далейшым не толькі ваенным, але і дыпламатычным умяшаннем Тэўтонскага ордэна ва ўнутраныя справы Вялікага княства Літоўскага, дзе крыжакі інтрыгавалі, падтрымліваючы аднаго князя супраць другога — Вітаўта супраць Ягайлы, Свідрыгайлу супраць Вітаўта. Вялікі князь літоўскі Вітаўт у пачатку XV ст. вёў барацьбу супраць рыцараў. Вясною 1409 г. у Жэмайціі (Жмудзі) успыхнула паўстанне супраць панавання нямецкіх рыцараў. Вітаўт аказваў падтрымку паўстанцам. Ягоны дваюрадны брат, польскі кароль Уладыслаў (Ягайла) і польскія феадалы таксама ўсталі на бок паўстанцаў. Польская дзяржава пры Ягайле ўмацавалася і гэта дало ёй магчымасць уступіць у саюз з Вялікім княствам Літоўскім. Вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген 6 жніўня 1409 г. аб'явіў вайну Польшчы і Вялікаму княству Літоўскаму (так званая «вялікая вайна»).

У снежні 1409 г. Ягайла і Вітаўт пад час сустрэчы ў Бярэсці распрацавалі план летняй кампаніі 1410 г. План прадугледжваў паход на сталіцу Ордэна—Марыенбург (Мальборк) і правядзенне рашаючай бітвы на ордэнскай тэрыторыі з мэтай знішчэння ўсіх вайсковых сіл Ордэна, а потым заключэнне міру з аслабленай дзяржавай крыжакоў.

Рашаючай кампаніяй «вялікай вайны» была летняя кампанія 1410 г. У ёй удзельнічала галоўная армія Тэўтонскага ордэна на чале з самім вялікім магістрам Ульрыхам фон Юнгінгенам. Яна складалася з 51 харугвы (палка) агульным лікам 21 тысяча конных рыцараў, 6 тысяч пехацінцаў і артылерыстаў, а таксама каля 5 тысяч чэлядзі ў абозе. У войска Ордэна прыбылі рыцары і наёмнікі з Германіі, Англіі, Францыі і іншых краін Еўропы.

Войска саюзнікаў — Польшчы і Вялікага княства Літоўскага — налічвала 31500 чалавек, не ўлічваючы ўзброенай чэлядзі ў абозе, артылерыстаў і атрадаў літоўскіх татар (да 2 тысяч). Польская конніца складала 18 тысяч, а пяхота 2 тысячы, войска Вялікага княства Літоўскага 11 тысяч і 500 пехацінцаў. У склад польскага войска ўваходзілі чэшска-мараўскія атрады. Усяго ў саюзным войску была 91 харугва. Як указалі ў свой час савецкія гісторыкі В. Пашута і М. Ючас («Военно - исторический журнал», 1960, № 7, с. 84), у польскім войску была 51 харугва, з якіх 7 было ўкраінскіх, і 40 харугваў было ў войску Вітаўта, з якіх 4 былі літоўскія, а 36 было беларускіх, украінскіх і нават рускіх (з Вялікага Ноўгарада). Беларускія харугвы складалі значную частку войска Вялікага княства Літоўскага. Гэта былі харугвы Полацкая, Віцебская, Гарадзенская, Берасцейская, Пінская, Навагародская, Лідская, Ваўкавыская, Мсціслаўская, Драгічынская, Мельніцкая, Старадубская. Былі і неназваныя атрады з беларускіх зямель, якія, як піша гісторык XV ст. Ян Длугаш, насілі назву сваіх князёў: Жыгімонта Карыбута, Сямёна Лугвена Альгердавіча, Георгія.

Галоўная бітва вайны адбылася 15 ліпеня 1410 года каля вёскі Грунвальд у паўднёвай частцы тагачаснай Прусіі. Першай на левы фланг ворага напала лёгкая конніца Вялікага княства Літоўскага, якая складалася з беларуска-ўкраінскіх, літоўскіх і татарскіх атрадаў. Другая частка літоўска-беларускага войска пад камандаваннем Вітаўта засталася ў рэзерве. У бой уцягнулася значная частка нямецкіх сіл. У Хроніцы Быхаўца пра гэта гаворыцца: «І пачалася бітва спярша паміж немцамі і літоўскім войскам, і шмат воінаў з абодвух бакоў літоўскіх і нямецкіх загінула». У бой уступілі 2-я і 3-я лініі войска Вялікага княства Літоўскага. На працягу цэлай гадзіны адбываўся бой паміж лёгкай конніцай Вітаўта і цяжкай конніцай крыжакоў. Пад напорам свежых сіл крыжакоў лёгкія атрады Вітаўта адступілі, заманьваючы за сабой крыжакоў. Гэта была тактыка беларуска-літоўскіх і татарскіх атрадаў— знясіліць цяжкую конніцу пагоняй, парушыць баявыя парадкі ворага, а потым вярнуцца на поле бітвы. Астатнія атрады войска Вялікага княства Літоўскага працягвалі бітву. Асабліва напружана разгортвалася бітва на левым крыле арміі Вітаўта ў стыку з польскім войскам. Тут размяшчаліся тры смаленскія харугвы пад камандаваннем мсціслаўскага князя Сямёна Лугвена Альгердавіча, якія герaічна вытрымалі націск ворага, але панеслі вялікія страты. Адзін са смаленскіх палкоў быў поўнасцю знішчаны. Але смаленскія атрады выстаялі і, як пісаў Ян Длугаш, «гэтым заслужылі ў той дзень славу...»

На другім этапе бітвы польскае войска ўступіла ў цяжкі бой з правым флангам крыжакоў. У бітву былі ўведзены новыя польскія атрады, а атрады Вітаўта, якія вярнуліся на поле бою, акружылі і знішчылі частку крыжакоў, якія вярталіся з пагоні за імі. Над полем загрымеў кліч саюзнікаў: «Літва вяртаецца!»

У апошняй фазе бітвы саюзнікі ахаплівалі галоўныя сілы крыжакоў і іх другую лінію. Польскія харугвы з левага флангу, літоўскія, беларускія, украінскія, рускія і татарскія атрады з правага напіралі на акружаных крыжакоў, збіваючы іх з пазіцый і знішчаючы іх. У схватцы адзін з воінаў Вітаўта, наблізіўшыся да магістра, усадзіў яму рагаціну ў шыю і скінуў з каня. Смерць Ульрыха фон Юнгінгена натхніла саюзнікаў. Шэсць нямецкіх харугваў кінуліся ў беспарадачныя ўцёкі. Сотні рыцараў здаваліся ў палон. Тых, хто супраціўляўся, забівалі. Былі забіты кіраўнікі і палкаводцы Тэўтонскага ордэна — маршал Фрыдрых фон Валенрод, Куна фон Ліхтэнштэйн, Ульбрэхт фон Шварцэнберг і іншыя знатныя рыцары. У 7 гадзін вечара 15 ліпеня 1410 г. бітва скончылася ўзяццем вагенбурга — умацаванага лагеру—і поўным разгромам крыжацкага войска.

1 лютага 1411 г. быў заключаны Торуньскі мір, паводле ўмоў якога Тэўтонскі ордэн адмаўляўся ад Жэмайціі і Добжынскай зямлі ў Польшчы, выплачваў пераможцам 100 тысяч марак кантрыбуцыі.

Вялікае значэнне Грунвальдскай бітвы вызначаецца не столькі яе дыпламатычнымі вынікамі, а той велізарнай роляй, якую яна адыграла ў гісторыі. Яна спыніла нямецкую феадальную экспансію ў славянскія землі і Літву. Пасля Грунвальдскай бітвы пачаўся палітычны заняпад Тэўтонскага ордэна, а яшчэ праз паўстагоддзя ў выніку Трынаццацігадовай вайны 1454—1466 гг. Польшча вярнула сабе Усходняе Памор'е і іншыя землі. Тэрыторыя Тэўтонскага ордэна паменшылася амаль удвая. Ён прызнаў сябе васалам Польшчы. Лівонія аддзялілася ад Тэўтонскага ордэна.

Перамога ў Грунвальдскай бітве садзейнічала далейшаму эканамічнаму развіццю Польшчы, Літвы, Беларусі. Яны атрымалі большую магчымасць весці міжнародны гандаль на Балтыйскім моры, вывозіць у Заходнюю Еўропу сельскагаспадарчыя прадукты і ўвозіць адтуль іншыя тавары. А галоўнае — землі Літвы і Беларусі былі назаўсёды забяспечаны ад нападаў крыжакоў.

Памяць пра Грунвальдскую бітву захавалася не толькі ў даўніх хроніках. У Пастаўскім раёне ёсць невялічкая вёска Грунвальд. Легенда гаворыць, што адзін з воінаў войска Вітаўта пасля перамогі пры Грунвальдзе пасяліўся тут, ля возера, і ў памяць бітвы даў назву заснаванай тут вёсцы.

Грунвальдская бітва з'яўляецца таксама сімвалам баявой садружнасці і братства славянскіх і прыбалтыйскіх народаў.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

# ЗА ЯДНАННЕ, ЯКОЕ ДАПАМОЖА ЧАЛАВЕЦТВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).**

змагацца з «партызанамі». Пракруцяць і фільм з прыгажунамі-артыстамі, «мэйд ін ЮЭсЭй», дзе ў «натуральным» выглядзе паказаны напад рускіх парашутыстаў на амерыканскі горад.

І яшчэ інфармацыя для роздуму: у ФРГ зараз выдаецца 121 газета, працуюць больш за 30 выдавецтваў неанацысцкага і рэваншысцкага напрамку. Гэта што-небудзь ды значыць!

**У пісьме амерыканскай школьніцы Саманты Сміт, якое яна прыслала савецкім кіраўнікам, задаецца пытанне: «...чаму СССР хоча пачаць вайну і заваяваць увесь свет?» А часопіс «Ньюсуік» піша: «У Бостане (штат Масачусетс) выклікалі псіхіятра да дзяўчынкі, якая настойліва патрабавала, каб ёй сказалі, ці паспее яна «пакончыць з сабою да таго, як ядзерная бомба ўпадзе на горад?» Не вытрымлівае дзіцячая псіхіка ўсяго таго, што абрушваецца на яе з радыёпрыёмнікаў, з экранаў тэлевізараў, з кніг і газет. А псіхіятра трэба было б паслаць перш за ўсё ў Белы дом, дзе распрацоўваюцца і зацвярджаюцца планы касмічных войнаў, «зоркавых» бітваў, «касмічных шчытоў», дзе на падрыхтоўку да вайны выдзяляюцца сотні мільярдаў долараў.**

«Праўдзівай інфармацыі пра СССР амаль няма, усе звесткі дзіка скажаюцца...» — гаварыў той немец з Дортмунда. І як ахвотна мы дзяліліся такою інфармацыяй з італьянцамі на сустрэчы ў Доме культуры Маскоўскага хімічнага завода. Бачылі, што людзі цікавяцца пасапраўднаму, хочуць ведаць як мага больш пра нас, каб і дома расказаць. Трактарыст Астыла Луіджы, якога памешчык выгнаў за камуністычныя перакананні і які быў на партыйнай рабоце ў Мілане, распытваў і пра сістэму адукацыі, і пра адпачынак моладзі ў горадзе і сяле, як жывуць людзі ў калгасе, колькі зарабляюць, што могуць купіць, як забяспечваюцца састарэлыя калгаснікі. На «сельскія» пытанні яму ахвотна адказвалі Барыс Кузьмінок і Таццяна Бялун, удзельнікі мастацкай самадзейнасці калгаса імя Леніна Гомельскай вобласці.

— А што робяць у Савецкім Саюзе маладыя людзі, калі хочуць жаніцца?

Ад такога пытання многія засмяяліся.

— Як што? Жэняцца! Абы кахалі адно аднаго, паважалі.

— А як з кватэрай?

— Галоўнае — знайсці чалавека па душы. А кватэру ці ад завода дадуць, ці ад райвыканкома, а на сяле калгас памагае свой дом пабудаваць.

— От вы смеяцеся, а ў нас не да смеху. Многія маладыя людзі застаюцца халастымі. Юнакі з дваццаці гадоў пачынаюць збіраць грошы на кватэру. Гадам к 26 ужо нешта назбіраецца, можна наняць пакойчык і жаніцца. Гэта, вядома, калі з работай усё ў парадку...

У другой групцы размова ішла на палітычныя тэмы, пра забастоўкі, змаганні рабочых Італіі за свае правы, за роўную аплату спецыялістаў у сельскай мясцовасці, як і ў горадзе, за бясплатнае медыцынскае абслугоўванне...

Пасля сустрэчы з італьянскай дэлегацыяй я шкадаваў, што не паспеў распытаць пра нейкі «фестываль» католікаў, які праводзіў пад той час папа рымскі ў процівагу маскоўскаму. Толькі пазней, сустрэўшы выпадкова ў аўтобусе аднаго з членаў італьянскай дэлегацыі (мы ўзаемна пазналі адзін аднаго і прывіталіся як сябры), я запытаўся ў яго, што ён думае пра папскі «фестываль».

— А хто пра той фестываль ведае? Мо толькі адзін папа,— італьянец моцна жэстыкуляваў, падбіраючы нямецкія словы. — Смех: будуць маліцца па цэлых днях, а потым перакуляцца на бок і хр-р-р... Хіба то фестываль? Во дзе фестываль! — паказаў ён у акно на расквечаную Маскву.

А кажуць, што гісторыя не паўтараецца... І цяпер жа, у 85-м, па ініцыятыве Вашынгтона на Ямайцы спрабавалі правесці «міжнародную канферэнцыю моладзі свабоднага свету». Надзей на яе арганізатары ўск-

## НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

Кажуць, апошнім часам на Захадзе з'явілася дзіўнаватае мастацтва: скульптурныя муляжы жабракоў, выстаўленыя на вуліцах. Дзівацтва? Дзівацтва сытых буржуа, якія прызвычаіліся да жывых жабракоў, што грэюцца на вентыляцыйных люках. І паведамленне пра тое, што нейкі адзінокі стары замёрз, не маючы прытулку, — успрымаецца ўсяго як эпізод у выпуску тэленавін.

Дзеля таго, каб зразумець, адчуць самому, што такое галеча, трэба стаць на месца абяздоленых, убачыць свет вачамі саміх беспрацоўных, жабракоў, састарэлых...

# У ЧАКАННІ ЦУДУ

### НА ТЭЛЕЭКРАНЕ — ПРЭМ'ЕРА

Гэта пад сілу хіба самому жыццю і... мастацтву.

Да мастакоў, бязлітасных у сваёй праўдзівасці, надзеленых дарам суперажывання, належыць сучасны галандскі пісьменнік Йос Вандэлоа.

Паводле яго п'есы «Тыдзень капітанаў» пастаўлены спектакль, які мы нядаўна бачылі па рэспубліканскім тэлебачанні.

Йос Вандэлоа вядомы як майстар прозы, што вызначаецца глыбокім псіхалагізмам, не цураецца ён і вострага сацыяльнага гратэску.

У п'есе Вандэлоа ўвагу рэжысёра тэлебачання Валерыя Мацюшэўскага прыцягнулі, відаць, дакладнасць драматычнай калізіі, уменне сканцэнтраваць у невялікім матэрыяле моцны маральны зарад.

Пра што ж гэтая п'еса? І, прынамсі, гэты спектакль?

Мы ўжо бачылі — на сцэне і на экране — такі дом састарэлых, такіх яго жыхароў. І калізія не вельмі быццам арыгінальная: у жорсткім свеце чыстагану нікому не патрэбныя старыя і калекі, яны выкінуты за борт грамадства, іх лёс нікога не цікавіць. А правядзенне нацыянальнага «тыдня састарэлых» (яны і ёсць — «капітаны»), пра што абвяшчае на пачатку спектакля рэспектабельны дыктар тэлебачання, — усяго толькі рэкламны трук, або — у лепшым выпадку — самападман «дабрадзейных» буржуа.

Так, падобны дом састарэлых мы не раз бачылі, бо, відаць, не вельмі яны і адрозніваюцца паміж сабой. Праўда, запомніцца гледачу менавіта гэты дом дзякуючы мастаку-афармніцелю Генадзю Хмызу.

Маленькія пакоі, старая мэбля, ад якой, здаецца, так і патыхае нафталінам і яшчэ нечым. «У доме, біткам набітым старымі, заўсёды пахне непрыемна», — з выклікам гаворыць адзін з герояў п'есы. І гэтая рэпліка прымушае на хвіліну ўявіць увесь побыт дома (дзеянне ж адбываецца толькі ў адным з яго пакояў), у якім жывуць не толькі чацвёра нашых знаёмых, а сотні людзей са сваім незайздросным лёсам.

Чацвёра герояў п'есы — чацвёра сяброў, «чацвёра капітанаў», а на самой справе — пасажыраў адной каюты павольна тонучага карабля. У нечым яны падаюцца нам знаёмымі, знаёмымі да болю... Знаёмымі ў тым сэнсе, што душа кожнага з нас хоць калі-небудзь ды праціналася болем і спачуваннем да старасці, да самотнасці блізкага або і не блізкага чалавека.

І ўсё ж яны — непаўторныя, як і ўсе людзі, як непаўторныя лёс і душа кожнага з іх. І тое, што мы адчуваем гэта з першых жа сцэн спектакля, тое, што хочацца бліжэй пазнаць кожнага з гэтых дзіўнаватых, крыху смешных і абсалютна безабаронных старых — безумоўна, заслуга акцёрскага квартэта.

Кожны з чатырох выканаўцаў — Генадзь Гарбук у ролі «капітана» Артура, Аляксандр Ткачонак у ролі Вілема, Аўгусцін Мілаванаў — былы кельнер Анры і Мацвей Федароўскі — інвалід Аляксандр (ён — самы малады з герояў) — іграе так, быццам нейкі час пражыў па меншай меры побач са сваім героем. Так натуральна і жыццёва выглядае кожная дробязь, кожная дэталь у паводзінах герояў.

Гэты ансамбль іграе не проста трох састарэлых і аднаго калеку, а нейкае чалавечае адзінства. Адзін без аднаго гэтыя людзі не могуць існаваць. Усім ім патрэбны свавольства і аптымізм Артура; скептыцызм і з'едлівасць «галантнага» Анры, які пачынае кожную раніцу з макіяжу перад люстэркам; зацятасць і незгаворлівая дабрыня Вілема, які ўвесь час траціць на кармленне галубоў; мяккасць і разважлівасць Аляксандра, прыкаванага да крэсла і кніг. Усе яны не ўсведамляюць, як патрэбны адзін аднаму, нават сварацца ўвесь час. Але больш у іх нікога няма. І ўсіх аб'ядноўвае яшчэ адно: пачуццё безабароннасці перад светам, страх перад жыццём, перад будучыняй, якой, па сутнасці, няма.



Сцэна са спектакля «Тыдзень капітанаў». Ідзе рэпетыцыя.
Фота М. МАРУГА.

Гэтае пачуццё можа трансфарміравацца ў абурэнне дзецьмі і блізкімі, у якіх ёсць пэўныя «абставіны» і «акалічнасці», каб не клапаціцца аб старых; у нянавісць да гэтых абставін, да ўлады грошай, да ладу жыцця, нарэшце. А можа ператварыцца ў дзіцячую веру ў цуд...

Маладая пакаёўка Ліф'е (артыстка А. Сідарава) прыносіць у першы дзень «тыдня капітанаў» букет кветак для старых — так, ад сябе, нічога не ведаючы пра кампанію, абвешчаную па тэлевізары. І гэта нараджае надзею: а раптам, а раптам збудуцца іх «смелыя» мары — каб паставілі тэлевізар у іх пакоі, каб «ахвяравалі» па пары цёплых шкарпэтак...

Нічога, акрамя гэтага гораснага чакання, у п'есе не адбываецца. Драматургія яе пазбаўлена ўсялякай знешняй драматычнасці. Не будзе смерці ніводнага з герояў, не з'явіцца і казачны Санта-Клаус з падарункамі. Наогул нічога надзвычайнага не адбудзецца. Вось толькі сын аднаго са старых — Артура, якім бацька не нахваліцца, раптам з'явіцца тут, у гэтым доме. І мы даведаемся — дарэчы, як і меркавалі, што ніякі ён не капітан, а звычайны мыйшчык посуду ў рэстаране. І зайшоў ён да бацькі ўсяго на хвіліну, прынёс яму бутэльку джыну.

Не, нічога не здарыцца, нават хвалюючай сустрэчы небаракі Артура з сынам не адбудзецца (як на ліха, бацька адлучыўся з дому). Толькі няёмка будзе перад старымі, якім нічога не прынёс, бо не ведаў пра іх існаванне; няёмка перад бацькам, якога столькі год не бачыў, няёмка перад сяброўкай, якой зусім не хочацца тут затрымлівацца, няёмка і пакутліва сорамна перад самім сабой—гэткім жа небаракам, як і ўсе астатнія.

І вось гэты зусім не высакародны, а проста чалавечы ўчынак (сын прыйшоў наведацца да свайго бацькі) успрымаецца як цуд, як узрушэнне.

Узрушэнне будзённым: у гэтым, напэўна, задума драматурга. І ў гэтым жа, напэўна, была небяспека для рэжысёра. Як ставіць п'есу, амаль пазбаўленую якіх бы то ні было сюжэтных паваротаў і знешніх эфектаў? Галоўная спружына дзеяння — псіхалагічная напружанасць, і яе ствараюць, як ужо гаварылася, майстэрства акцёраў і, не ў апошнюю чаргу — аператарская работа (галоўны аператар — У. Хромаў).

Пры запаволенасці дзеяння, нават пэўнай зацягнутасці спектакль вымагае ад гледача душэўнай работы і пэўнага намагання. І той, хто пачаў глядзець гэты спектакль, без сумнення, дагледзеў яго да канца. Бо ён — пра само жыццё, пра жыццёвыя агульначалавечыя праблемы.

На гэтым можна было б паставіць кропку, калі б... не ўслухоўвацца, як гавораць героі п'есы, якой мовай. Рознага роду русізмы, дыялектызмы, нават канцылярызмы, зусім не ўласцівыя мове герояў Вандэлоа, з'явіліся ў перакладзе п'есы на беларускую мову. Перакладчыку (І. Скурко) варта было больш уважліва паставіцца да работы, каб захаваць стыль і дух арыгінала, а не толькі перадаць яго змест у адвольным перакладзе.

**В. ТРАВЕНЬ.**

ладвалі шмат: дыскрэдытаваць XII Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Маскве, раскалоць міжнародны дэмакратычны рух моладзі, адцягнуць увагу маладога пакалення ад барацьбы за мір і сацыяльную справядлівасць. А прыехала туды ўсяго 900 чалавек, і хто ў асноўным? Асобы, якія належалі да ультраправых і контррэвалюцыйных арганізацый, кубінскія «гусанас», нікарагуанскія «контрас». Пасяджэнні ішлі ў атмасферы грызні і спрэчак, частка ўдзельнікаў пасля сварак увогуле пакінула Ямайку. У апошні дзень зборышча абмяркоўвалася «заключная палітычная заява». Пасля доўгай перапалкі гэты дакумент быў прыняты. Некаторым дэлегатам удалося ўнесці ў яго папраўкі, у якіх, у прыватнасці, асуджаўся апартэід, які гэтак любы сэрцу вашынгтонскіх дзеячаў...

Боязь фестываляў «За мір і дружбу», таго, што моладзь лепш пазнае адна адну, пасябруе, згуртуецца ў барацьбе за мір, суправаджаў фестывальны рух увесь час. Яшчэ ў свой час Далес даваў указанні сваім паслам у розных краінах, каб аказвалі націск на ўрады з мэтай не дапусціць іхнюю моладзь у Маскву, каб у друку, на радыё і тэлебачанні разгарнулася антыфестывальная прапаганда. Разгарнуўся подкуп лідэраў маладзёжнага руху, засылка ў арганізацыі моладзі дэмакратычнага напрамку сваіх агентаў, гэтаксама і ў жаночыя, прафсаюзныя, рэлігійныя, у рады прыхільнікаў міру.

Асаблівы размах антыфестывальная кампанія набыла ў час падрыхтоўкі і правядзення VII, Венскага Сусветнага фестывалю. У Франкфурце-на-Майне быў створаны спецыяльны антыфестывальны штаб, які каардынаваў усю правакацыйную дзейнасць. Былі выпушчаны многія тоны антыфестывальнай літаратуры і газет. Выпускалася падробка пад газету «Фестываль» Міжнароднага падрыхтоўчага камітэта і аж на сямі мовах — спецыяльныя «Венскія навіны». Да гэтага прыклалі руку амерыканская служба інфармацыі ў Аўстрыі, разведвальныя органы НАТА і ЦРУ. З ФРГ і Італіі былі завезены ў Вену групы фашысцкіх малойчыкаў, якія рабілі напады на прагрэсіўна настроеных лідэраў моладзі, на фестывальны міжнародны прэсцэнтр, каб ліквідаваць яго. Нанятыя на долары «анты» завезлі ў аўстрыйскую сталіцу тысячы галодных пацукоў. Іх планавалася выпусціць на трыбунах у час адкрыцця фестывалю. Можна толькі сабе ўявіць, што рабілася б на трыбунах, каб паліцыі не ўдалося прадухіліць гэтую правакацыю. Некалькі чалавек са скрынкамі, якім удалося прарвацца на стадыён, так і не асмеліліся адчыніць іх.

Па расказах нашых удзельнікаў, у час фестывалю ў Хельсінкі ў 1962 годзе сярод дэлегатаў і моладзі распаўсюджваліся паклёпніцкага зместу кніжкі. П'яныя малойчыкі, падкупленыя спецслужбамі Захаду, выкрыквалі антыфестывальныя лозунгі.

Бітва за моладзь, бітва за розумы не спыняецца ні на адзін дзень...

На папярэдніх сусветных фестывалях моладзі і студэнтаў мастацкія калектывы беларускай дэлегацыі не ўдзельнічалі ў міжнародных конкурсах. На VI жа ўсе сталі лаўрэатамі, заваявалі залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі. За паўмесяца фестывалю мастацкая група нашай дэлегацыі дала 32 канцэрты, г. зн. больш чым па два на кожны дзень фестывалю.

Стомленая, шчаслівая вярталася беларуская дэлегацыя дадому. Фестывальны поезд грымеў песнямі ўсю дарогу, дрыжаў ад раскатаў рогату, калі наладжваліся розыгрышы, імправізаваныя сцэнкі, гульні, калі з канца ў канец поезда хадзілі «госці», нібы валачобнікі ці калядоўшчыкі, спаборнічалі, хто каго перасмяшыць, пераможа ў выдумцы. Гэта ўсё яшчэ ішло развітанне з VI Сусветным, з яго шчырай, сардэчнай атмасферай.

...Якім жа ты будзеш, новы Маскоўскі — Дванаццаты?

## МАРКІ АБ «СЛОВЕ»

**Выпускам спецыяльнай паштовай маркі савецкая пошта адзначыла 800-годдзе з часу стварэння «Слова аб палку Ігаравым».**

**На паштовай мініяцюры, выкананай у стылі кніжных гравюр, дадзены ілюстрацыі да сцэн выступленняў рускага войска, паказаны плач Яраслаўны на сценах Пуціўля. Кампазіцыю дапаўняюць узоры зброі старажытнарускіх воінаў, аркуш пергаменту і гусінае пяро. На марцы тэкст: «Слова аб палку Ігаравым. 800 гадоў».**

**У дзень выпуску ў паштовы абарот марка гасілася спецыяльным штэмпелем.**

**Гэта не першая паштовая марка аб помніку старажытнарускай літаратуры. У 1957 годзе ў серыі «Пісьменнікі нашай Радзімы» была створана марка, на пярэднім плане якой выяўлены старажытнарускі паэт з гуслямі, на заднім плане — дружына Ігара, якая адпраўляецца ў палавецкія стэпы ў момант сонечнага зацьмення. Яшчэ адна марка, прысвечаная «Слову аб палку Ігаравым», была выпушчана ў 1975 годзе да 175-гадовага юбілея яго першага выдання. На ёй узноўлены фарзац «Слова» 1938 года выдання — гравюра У. Фаворскага.**

**Л. КОЛАСАЎ.**

## АБ'ЯВЫ

# РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС

### на лепшы эскіз эмблемы Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры

### ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Конкурс праводзіцца Рэспубліканскім саветам таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і Саюзам мастакоў Беларускай ССР.**

**Мэта конкурсу — стварэнне ў яркай мастацкай форме эмблемы Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, якая раскрывае асноўныя напрамкі дзейнасці таварыства — ахову, рэстаўрацыю, выкарыстанне і прапаганду помнікаў гісторыі і культуры.**

**Эмблема павінна быць выразнай, аднаколернай, адпавядаць прафесійнаму ўзроўню выканання. У эскізе магчыма прымяненне слоў «Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры». Аднак пераважным правам будуць карыстацца сімвалічныя выявы, якія найбольш поўна адлюстроўваюць мэты і задачы таварыства. Аўтар павінен улічваць, што эмблема таварыства будзе прымяняцца на ўсіх відах выяўленчай прадукцыі (марцы, запрашальным білеце, бланку з назвай арганізацыі, брашурах, буклетах і г. д.), а таксама значку, памер якога павінен адпавядаць 15—16 мм.**

**У конкурсе могуць прымаць удзел як прафесійныя, так і самадзейныя мастакі, актывісты таварыства, члены юнацкіх груп.**

**Конкурсныя эскізы павінны быць выкананы на белай паперы (фотапаперы) у двух экземплярах: адзін адвольны, другі — 15—17 мм і наклеены на кардон, адпаведны памерам паштовага канверта (10×15 см). У правым верхнім кутку кардона ўказваецца дэвіз работы.**

**Эскізы эмблемы прадстаўляюцца на конкурс у заклееных канвертах з паметкай «на конкурс». У гэты або другі канверт укладаецца аркуш з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара (аўтарскага калектыву), хатні адрас, месца работы, вучобы, узрост, а таксама дэвіз аўтарскай работы.**

**Конкурс прадоўжаны да 1 лістапада 1985 г. Конкурсныя работы накіроўваюцца на адрас: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 20, Рэспубліканскі савет Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (на конкурс).**

**Для ўзнагароджання пераможцаў конкурсу ўстаноўлены наступныя прэміі:**

**адна першая — 100 руб.,**
**адна другая — 80 руб.,**
**адна трэцяя — 60 руб.,**
**тры заахвочвальныя прэміі па 25 руб. кожная,**
**памятныя падарункі для заахвочвання членаў юнацкіх груп, якія прынялі ўдзел у конкурсе, на суму 50 рублёў.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэту Сяргею Панізніку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

## З НАРОДНЫХ КРЫНІЦ

Глядацкія водгукі заўсёды шмат гавораць. Асабліва тады, калі іх чуваць з вуснаў людзей, якія аб'яднаны з творцамі адной прафесіяй. Пацвярджэнне таму — выстаўка твораў членаў народнага клуба-студыі самадзейных мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва горада-героя Мінска «Дзеля жыцця на зямлі». «Здарова! Больш бы такіх экспазіцый!», «Працуйце гэтак і надалей!» — такія ці падобныя пажаданні ў кнізе водгукаў. І напісаны яны інжынерамі і настаўнікамі, пенсіянерамі і рабочымі. Напісаны пасля знаёмства з творамі тых жа інжынераў, настаўнікаў, пенсіянераў, рабочых, якія ў вольны час займаюцца творчасцю. І не проста малююць, лепяць, чаруюць


У зале выстаўкі.

# НАБЫЦЦЁ ЎПЭЎНЕНАСЦІ

над ніткамі, каб нарадзіліся макрамэ ці цудоўныя пасцілкі, але і часта збіраюцца разам у сваім народным клубе-студыі, каб сумесна абмеркаваць паасобныя работы, падзяліцца вопытам, уражаннямі.

Такія выстаўкі ў Мінску арганізоўваюцца рэгулярна. Тым не менш цяперашняя экспазіцыя асаблівая, бо прысвечана 40-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Асноўная тэма, якая раскрыта ў творах, гэта мужнасць і гераізм у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і адначасова выкрыццё звярынай сутнасці фашызму.

У гэтым сэнсе карціна С. Чэпікава «Хатынь» асабліва адметная. Самадзейны аўтар вырашыў сродкамі мастацтва паспрабаваць узнавіць тое, што папярэднічала самой трагедыі, вярнуцца ў сакавіцкі дзень сорак трэцяга, калі яшчэ была на зямлі гэтая беларуская вёска, калі яшчэ жылі яе людзі — старыя, малыя... С. Чэпікаў падае часта ўзбуйненым планам халодна-абыякавыя, азвярэлыя твары фашыстаў, якія выводзяць людзей з хат, гоняць да гумна. Плач, роспач, душэўныя пакуты — усё гэта паядналася між сабой. Але якая вялікая, крутая мяжа паміж катамі і пакутнікамі! Можна спаліць, забіць хатынцаў, ды памяць пра вёску застанецца!

Э. АФАНАСЕНКА. Дзяўчынка з Яхімоўшчыны.

Л. ПЯЧЭНКІНА. Дэкаратыўнае пано.

Да тэмы Хатыні, тэмы ўсёй шматпакутнай беларускай зямлі, якой давялося ў гады другой сусветнай вайны зведаць столькі гора, звяртаюцца і іншыя аўтары. Сярод іх і пастаянны ўдзельнік такіх выставак П. Красавіна. На гэты раз яна прадставіла трыпціх «Хатынь» — «Рэха вайны», «Вечны агонь», «Памяць сэрца».

Старэйшы самадзейны мастак П. Гольцаў адну са сваіх апошніх работ назваў «Фашыстаў выбілі. Хутчэй дахаты».

На эмацыянальным уздыме напісаны і такія творы, як «У Нямеччыну» і «Першы дзень вызвалення Мінска» А. Кухцені, С. Выгодскага «Контратака», М. Капітанчука «Курган Славы» і іншыя.

У экспазіцыі адчуваецца і тэма пераемнасці пакаленняў. І тут нельга не назваць карціну М. Ягорава «Будні ветэрана». На пярэднім плане стары з унукам. Прыселі адпачыць, бо няйначай сталярнічалі. Жыццё працягваецца, несупыннае ў сваёй нястомнай хадзе, і ў ім яшчэ неаднойчы спатрэбіцца вопыт старэйшых, асабліва ветэранаў вайны, якія шмат перажылі і пабачылі.

Самадзейныя творцы даволі часта звяртаюцца да партрэта як жанру, які дае магчымасць пільней прыглядзецца да ўнутранага свету чалавека, зазірнуць у яго душу. І, вядома ж, найбольш расказваюць пра ветэранаў вайны і працы. Напрыклад, Э. Афанасенка. Адна з яго работ мае абагульнены характар — «Партрэт ветэрана вайны».

Адлюстравана і тэма прыгажосці роднай зямлі. Найчасцей аўтары перадаюць хараство краявідаў, знаёмых і дарагіх ім. Падобныя работы калі-нікалі нагадваюць сабой і звычайную фатаграфію. Пейзажу, як жанру, аддае перавагу І. Ермакоў — «Летні дзень», «У асеннім уборы», Г. Вараб'ёва — «Зімовы настрой», «Пралескі», А. Рыжачкін — «Дзень згасае» і іншыя аўтары.

Асноўнае месца ў экспазіцыі займаюць творы жывапісу, але прадстаўлены і іншыя жанры. І. Кашноў, які даўно займаецца скульптурай, вынес на суд аматараў мастацтва партрэты вядомых пісьменнікаў — Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, Л. Талстога, М. Гогаля, Янкі Купалы. Бы спявае дрэва дзякуючы майстэрству Я. Шчаглова. Прынамсі, кампазіцыі «Паўлінка з панам Быкоўскім» і «Перамога» ў гэтым добра пераконваюць.


Я. ШЧАГЛОЎ. Паўлінка з панам Быкоўскім.

Жанчыны ж — Л. Пячэнкіна, Л. Папковіч, А. Лазарук — твораць сапраўдныя цуды з нітак...

Правільна зрабілі Міжсаюзны Дом самадзейнай творчасці Мінскага аблсаўпрофа і народны клуб-студыя самадзейных мастакоў горада Мінска, арганізатары гэтай выстаўкі, што размясцілі экспазіцыю ў людным месцы. Яна працавала ў выставачнай зале Беларускага навукова-даследчага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі Дзяржплана БССР, што знаходзіцца на праспекце імя Машэрава, і сотні людзей змаглі завітаць сюды.

**А. БЕРАЗОЎСКІ.**

Фота М. МІНКОВІЧА.




з 22 па 28 ліпеня

23 ліпеня, 20.35
**СПЯВАЕ ЛАЎРЭАТ УСЕСАЮЗНЫХ І МІЖНАРОДНАГА КОНКУРСАЎ В. ПОЛАЗАЎ.**
У праграме — рамансы рускіх і савецкіх кампазітараў.

24 ліпеня, 20.05
**«РОДНАЕ СЛОВА».** Тэлечасопіс.
Гледачы пабываюць у Мікалаеўшчыне, на радзіме Якуба Коласа, а таксама ў вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна, на радзіме Францішка Багушэвіча, даведаюцца пра мовазнаўчую і краязнаўчую працу вучняў Гудзевіцкай школы і моўную практыку студэнтаў БДУ.

24 ліпеня, 20.50
**НА РАДЗІМЕ ПІСЬМЕННІКА АЛЕСЯ ПАЛЬЧЭЎСКАГА.**
Вы пабываеце ў вёсцы Прусінава Уздзенскага раёна, пазнаёміцеся з землякамі пісьменніка.

25 ліпеня, 20.25
**ЛАЎРЭАТ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТЭЛЕВІЗІЙНАГА КОНКУРСУ «ЗЯМЛЯ МАЯ».**
Канцэрт дзіцячага хору «Ветрык» сярэдняй школы № 150 Мінска.

26 ліпеня, 19.45
**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК. «ДЗВІНА».** Літаратурна-мастацкі часопіс.
Тэлегледачы пазнаёмяцца з удзельнікамі абласнога свята паэзіі, пабываюць на семінары творчай моладзі ў Ляўках.

27 ліпеня, 10.25
**ТЭЛЕКЛУБ САМАДЗЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ «СУЗОР'Е».**
Госці тэлеклуба — народныя ўмельцы са Случчыны: разьбяры, ткачыхі і майстры пляцення з лазы.

27 ліпеня, 13.05
**«СЛОВА — ПАЭЗІІ».**
Свае новыя вершы чытае В. Макарэвіч.

27 ліпеня, 15.00
**«РОЗДУМ».**
Гаворка пойдзе пра карціну заслужанага дзеяча мастацтваў БССР В. Грамыкі «Жанчынам Вялікай Айчыннай вайны прысвячаецца». Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

27 ліпеня, 15.20
**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ».**
У чарговым выпуску тэлечасопіса пісьменнік У. Шыцік падзеліцца сваімі разважаннямі пра жанр дэтэктыву і навуковай фантастыкі, паэт С. Панізнік пазнаёміць гледачоў са сваёй новай кнігай паэзіі «Мацярык». Будзе адзначана і 25-годдзе літаратурнага архіву БССР. Вядзе перадачу В. Іпатава.

27 ліпеня, 16.15
**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ».**
Народны артыст БССР Г. Аўсяннікаў. Вядучы — паэт Р. Барадулін.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 07200 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела мастацтваў — 33-21-53, аддзела арганізацыйна-масавай работы — 33-19-65, аддзела культуры — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва — 23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.



Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы ў двух экземплярах.
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.